ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 46 16 лістапада 1995 г.
(2448) Выдаецца з 1955 г. Цана 800 рублёў.

## НАЗАД — ДА СВЕТЛЫХ ДАЛЯЧЫНЬ КАМУНІЗМУ



Больш за 30 тысяч чалавек прыйшлі на мітынг на плошчу Незалежнасці, да помніка Леніну, 7 лістапада 1995 года.

(Заканчэнне фотарэпартажу на 8-й стар.).

РАЙНІСАЎСКІЯ ДНІ НА БЕЛАРУСІ

## З ЛЮБОЎЮ І ПАДЗЯКАЙ

*Райніс -- адзін з першых і найбольш паслядоўных ідэолагаў латвійскай дзяржаўнасці. Імя Райніса -- сінонім Латвіі. Гэтаксама, як падчас першай сусветнай вайны Райніс мацаваў дух народа, які ствараў незалежную Латвію, так імя Райніса і зараз неабходна для стварэння гуманнай, свабоднай, чалавечнай Еўропы.*

**Кнут СКУЕНІЕКС.**

З нагоды 130-годдзя з дня нараджэння вялікага сына Латвіі, класіка латышскай літаратуры Яніса Райніса, на Беларусі прайшлі Дні ўшанавання шчырага сябра беларусаў, апекуна і натхняльніка на адраджэнскія справы дзеячаў беларускай нацыянальнай меншасці ў Латвіі.

На яго складаным, нялёгкім жыццёвым і творчым шляху былі моманты ўзнёслага шчасця. Сярод афарызмаў Я. Райніса ёсць такі: "Шчасце -- умець прызнаваць прыгажосць не свайго. Гэта ўласцівасць або прыроджаная, або надбаная; хто яе ведае як мэту, той мае радасць". Прыгажосць сумежнага, суседняга, усё, што было за мембранай яго душы і дакранапася пратуберанцамі сэрца, Райніс не толькі прызнаваў, прыклікаў, усваяў, урадняў, але рабіў сваёй уласнай прыгажосцю. Сама сям'я Пліекшанаў (мама Дарта з ліцьвінскага роду Грыкоўскіх), сама латгальская Ілукстаўшчына -- беларуска-літоўска-латышскае сумежжа -- нясуць прыклад духоўнае дыфузіі, натуральнай, а таму і ўзбагачальнай. Так вось у сям'і Пліекшанаў гаварылі на васьмі мо-



вах -- на кожны нязмушаны прынадны выпадак. Потым Райніс згадваў, што "ад пяці да пятнаццаці гадоў" чуў ад мамы, а пазней і ад дзядзькі -- гуда Нядзвецкага -- мелодыі беларускіх народных песняў.

(Заканчэнне на 4-й стар.).

ПЕНСІЯ — ГЭТА НЕ ЛЬГОТА, А ЗАРОБЛЕНАЕ ЧАЛАВЕКАМ НА ПРАЦЯГУ ЎСЯГО ЖЫЦЦЯ

## ХТО АБАРОНІЦЬ СТАРАСЦЬ?

### НА ПЫТАННІ КАРЭСПАНДЭНТА АДКАЗВАЕ МІНІСТР САЦЫЯЛЬНАЙ АБАРОНЫ ВОЛЬГА ДАРГЕЛЬ

**Калі краіна трапляе ў паласу эканамічнага крызісу, адразу пагаршаецца сацыяльнае становішча насельніцтва, значна павялічваецца колькасць людзей, пра якіх кажуць, што знаходзяцца яны на мяжы існавання. Беларусь у гэтым выпадку не выключэнне. Сёння жыць цяжка ўсім, але асабліва людзям сталага ўзросту, інвалідам, дзецям, якіх кінулі бацькі, і г.д. Падаецца сімвалічным, што Міністэрства сацыяльнай абароны Беларусі ўзначальвае ледзь не адзіная ва ўрадзе жанчына. Каму як не ёй, дачцэ і маці, ужо самой прыродай наканавана быць чулай да чужога болю, клапаціцца пра сваіх падапечных, ахоўваць іх і абараняць. [illegible] міністра сацыяльнай абароны Вольгі Даргель такіх падапе[illegible]х амаль палова насельніцтва краіны. Кожны тыдзень дзесяткі з іх прыходзяць да яе па падтрымку і дапамогу. Яна называе іх ласкава "мае пенсіянеры", "мае інваліды"... Але ці можа міністр дапамагчы ўсім і кожнаму! Як і іншыя дзяржаўныя інфраструктуры, сістэма сацыяльнай абароны Беларусі патрабуе рэ[illegible]авання. Праблем у міністэрстве ніяк не памяншаецца, а на[illegible]рот, набываюць яны ўжо форму снежнага камяка, аб іх і разважае Вольга ДАРГЕЛЬ у гутарцы з нашым карэспандэнтам.**

*-- Вольга Браніславаўна, указы прэзідэнта "Аб упарадкаванні некаторых ільгот..." і "Аб некаторых пытаннях рэгулявання працоўнай дзейнасці і пенсійнага забеспячэння" выклікалі ў грамадстве рэзананс, які дагэтуль не сціхае. Наогул яны падаюцца не вельмі дасканалымі, бо на працягу апошняга месяца ў іх неаднаразова ўносіліся змены і дапаўненні. А як вы ставіцеся да іх?*

-- Ведаеце, я ёсць выканаўчая ўлада, а таму разважаць, калі закон ці ўказ ужо прыняты, я не маю права. Які б закон ні быў, ён павінен выконвацца. Але, з другога боку, усе хібы нашых законаў, ці пастаноў, ці ўказаў я ў першую чаргу адчуваю на сабе. Відавочна, што асноўнае абмеркаванне павінна адбывацца да таго, як указ ці закон набудзе сілу. Усё жыццё я імкнулася сумленна выконваць сваю справу і абавязкі. А таму я ўвесь час казала, кажу і заклікаю тых, каго гэта тычыцца: давайце часцей сустракацца, давайце спрачацца, абмяркоўваць праекты разам. Вельмі важна ў такіх выпадках выслухаць усе думкі, улічыць заўвагі ўсіх бакоў, узважыць усе "за" і "супраць". Трэба нарэшце вызначыць, што такое прывілея, а што чалавек зарабіў сам, і дзяржава яму цяпер павінна аддаць. Зразумела, што эканамічнае становішча краіны вельмі цяжкае і жыццё нас падштурхоўвае да прыняцця паспешных рашэнняў, але мы не маем права на памылку ў адносінах да найменш абароненых сёння людзей, якія апынуліся на мяжы існавання. Дарэчы, усе нашыя прапановы, якія тычыліся льгот інвалідаў і ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны, інвалідаў першай і другой груп, а таксама некаторых іншых катэгорый грамадзян, былі ўлічаны, і льготы захаваліся і на праезд, і на лекі, і г.д. Што мяне сёння клапоціць больш за ўсё, дык гэта мае пенсіянеры. Увесь свой час я ламаю галаву, як забяспечыць ім годнае існаванне сёння, што зрабіць, каб не адчувалі яны сябе пакрыўджанымі. У іх адабралі зберажэнні, якія яны збіралі на старасць, сёння ў іх жабрацкая пенсія. Яны ж не збіраюцца жыць два жыцці, а таму і патрабуюць, каб дзяржава аддала тое, што ім вінна сёння.

*-- Мы перажываем час вялікіх пераўтварэнняў, калі людзей, якія патрабуюць сацыяльнай абароны, з'яўляецца ўсё больш, грошай у дзяржавы ўсё менш, хібаў у законах, вы самі кажаце, шмат. Дык што ў такіх умовах вы можаце зрабіць?*

-- Так, час цяжкі, але я веру ў сваю краіну і перакананая, што беларусы будуць жыць добра. Зараз усе пастаўлены ў складаныя ўмовы, але ўсе павінны рабіць сваю справу прафесійна, каб той час прыспешыць. Што ж тычыцца заканадаўства, дык калі ўзяць, напрыклад, наш закон "Аб пенсійным забеспячэнні", ён увогуле і нядрэнны. У ім была закладзена сістэма з мэтай пазбегнуць ураўнілаўкі, а г.зн. той, хто больш працаваў і атрымліваў больш грошай, павінен атрымліваць і большую пенсію.

(Заканчэнне на 3 стар.).

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

САЦЫЁЛАГІ ПРАГНАЗУЮЦЬ

## ВЫБАРЫ ПАВІННЫ АДБЫЦЦА

Выбары, намечаныя на 29 лістапада, павінны адбыцца. Па крайняй меры, у многіх акругах. Такі вывад зрабілі спецыялісты Беларускага інстытута інфармацыі пасля чарговага этапу вывучэння сацыяльна-палітычнай сітуацыі ў рэспубліцы, у ходзе якога было апытана 1 042 чалавекі. Аналіз адказаў паказаў, што на канец кастрычніка 53 працэнты рэспандэнтаў былі гатовы прыняць удзел у выбарах у парламент. Маюць намер прыйсці на выбарчыя ўчасткі 40,8 працэнта студэнтаў і навучэнцаў, 44,3 працэнта маладых людзей ва ўзросце да 30 гадоў.

У пэўнай ступені даследаванне дае адказ і на пытанне, хто мае больш шансаў на перамогу. Безумоўнымі лідэрамі, згодна з апытаннем, з'яўляюцца кандыдаты левых сіл, якія падтрымліваюць прынцыпы сацыяльнай справядлівасці, сацыяльнай абароны. Так лічаць 38,5 працэнта рэспандэнтаў.

АФІЦЫЙНАЯ ХРОНІКА



Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь Аляксандру ЛУКАШЭНКУ ўручыў вярыцельныя граматы Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Аўстрыйскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Вальтэр ЗІГЛЬ.
НА ЗДЫМКУ: у час цырымоніі ўручэння.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## ЧУТКІ АБ АДСТАЎЦЫ УЛАДЗІМІРА СЯНЬКО

"Нягледзячы на своеасаблівасць поглядаў і пазіцый міністра замежных спраў па шэрагу пытанняў", прычын для адстаўкі кіраўніка знешнепалітычнага ведамства Беларусі Уладзіміра Сянько няма. Аб гэтым заявіў Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка, адказваючы на пытанні журналістаў на прэс-канферэнцыі ў Доме юстыцыі Магілёва ў час рабочай паездкі ў горад на Дняпры.

Чуткі аб адстаўцы Уладзіміра Сянько актыўна мусіраваліся ў час знаходжання Прэзідэнта ў ЗША. Гэта акцыя, паводле слоў кіраўніка дзяржавы, была арганізавана апазіцыяй у мэтах "маральнага тэрору" ў адносінах да высокакваліфікаванага дыпламата.

АБМЕН ВАЛЮТЫ

## ФЕДЭРАЛЬНЫ БАНК ЗША ДАПАМОЖА

Паводле звестак агенцтва РІД, Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь з афіцыйным візітам наведаў прадстаўнік Федэральна-рэзервовага банка ЗША.

Гэта паездка ў нашу краіну была запланавана ў сувязі з маючай адбыцца заменай старых купюр долараў ЗША на новыя. Асноўнай мэтай паездкі з'яўляецца падрыхтоўка дзелавых колаў Беларусі да правядзення безажыятажнай доўгачаканай аперацыі па абмену наяўных долараў ЗША. Федэральна-рэзервовая сістэма ЗША, на думку зарубежнага госця, арганізуе беспераболйную пастаўку новых купюр узамен старых у любой колькасці, а таксама кансультацыйную дапамогу па гэтаму мерапрыемству.

Як растлумачыў адказны работнік Нацбанка, гэта дапамога, аказваецца, не зусім бескарыслівая. Па сутнасці, хаджэнне наяўнай амерыканскай валюты ў краінах з няўстойлівай эканомікай з'яўляецца практычна беспрацэнтным крэдытам федэральна-рэзервовай сістэме ЗША.

З БЛАГАСЛАВЕННЯ ПРЭЗІДЭНТА

## "ЗАЛАТЫ ШЛЯГЕР"

У Магілёве адзвінелі апошнія акорды першага Міжнароднага музычнага фестывалю "Залаты шлягер-95". На працягу шасці дзён зоркі савецкай эстрады 60--80-х гадоў, маладыя выканаўцы і калектывы выступалі з канцэртамі ў Палацы культуры хімікаў, у гарадах, раённых цэнтрах і вёсках Магілёўшчыны. У рамках фестывалю прайшоў таксама гала-канцэрт у Мінску, на якім прысутнічаў Прэзідэнт рэспублікі Аляксандр Лукашэнка.

—Мы вельмі ўдзячныя магіляўчанам за ідэю гэтага фестывалю, -- выказаў агульную думку артыстаў заслужаны дзеяч мастацтваў Расіі, кампазітар Аляксандр Колкер. -- Песні мінулых гадоў жывуць і хвалююць сэрцы людзей, іх любяць у вёсцы і ў горадзе. Мы выступалі ў многіх гарадах і краінах, але такога цёплага прыёму, як на Магілёўшчыне, не адчувалі нідзе. Зала літаральна падпявала нам.

Падводзячы вынікі, мастацкі кіраўнік фестывалю, дырэктар абласной філармоніі Уладзімір Браілоўскі сказаў:

-- Усе артысты, якія выступалі ў нас, аднадушна выказваліся за тое, каб такое свята песні мінулых гадоў праводзілася ў Мігалёве штогод. Гэту ідэю падтрымалі кіраўнікі горада і вобласці. А Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка не толькі адобрыў яе, але і прапанаваў надаць фестывалю рэспубліканскі статус.

ЗАБОЙСТВА

## АПОШНІ З ПАБУЖЖА

Пажылога сельскага настаўніка Аркадзя Набокіна з вёскі Пабужжа Веткаўскага раёна ведаў ледзь ці не ўвесь свет. Ён вызначыўся тым, што, адмовіўшыся ад эвакуацыі пасля чарнобыльскай катастрофы, застаўся дажываць свой век адзінадзінюткі ў зусім апусцелай вёсачцы. Займаўся жывёлагадоўляй, збіраў грыбы і ягады ў зусім "брудным" лесе. Як матэматык, ён разлічваў нагрузку і мог прывезці на веласіпедзе капу сена, як дыпламаваны спецыяліст лясной гаспадаркі, умеў здабыць з навакольнага асяроддзя максімальную карысць. Пра яго пісалі газеты, у тым ліку і замежныя, пра яго здымалі тэлесюжэты. І вось Набокіна не стала. Не, ад радыяцыі ён не памёр. Яго забілі. Магчыма, з-за яго хатняй фермы, у якой налічвалася больш за дваццаць галоў жывёлы.

"КАСТРЫЧНІЦКАЯ" НОЧ

## ПАЖАРЫ: ВЫПАДКОВА ЦІ ЗНАРОК?

У ноч з 6 на 7 лістапада ў вёсцы Наваполле Пухавіцкага раёна ўспыхнула АТС на 100 нумароў. Паштовае аддзяленне ператварылася ў папялішча. Ацалеў толькі насыпны сейф з грашыма. Прыкладна на месяц без сувязі засталіся калгасы "Рассвет" і "Навапольскі".

Не паспелі пажарныя прыбыць да месца ...лакацыі, як паступіў новы сігнал аб пажары ў вёсцы Ленінск. Гарэлі тры сцірты грубых кармоў, што належалі калгасу "Перамога".

У гэты ж час успыхнула сціртa саломы ў саўгасе "Рудзенскі", а ў жыхара вёскі Узляны ...оль "злізаў" запас сена для каровы.

Ланцуговую рэакцыю пажараў за адну ноч у Пухавіцкім раёне расследуюць праваахоўныя органы.

ДАБРАЧЫННАЯ МІСІЯ



Аўстрыйскія медсёстры Сімона Сальнэр і Маргет Візер прыехалі ў Беларусь ад дабрачыннай арганізацыі "Карытас". Яны бясплатна працуюць у Мінскім абласным радзільным доме.

Сімона і Маргет дапамагаюць нашым медсёстрам авалодаць вопытам работы еўрапейскіх медыцынскіх устаноў.

НА ЗДЫМКУ: Сімона САЛЬНЭР і Маргет ВІЗЕР мераюць тэмпературу дзіцяці, якое знаходзіцца ў аддзяленні рэанімацыі нованароджаных.

ФЕМІДА

## ДЗЕВЯЦЬ ГОД ЗА ХАБАР

Народны суд Ленінскага раёна Мінска прызнаў вінаватым былога дырэктара Беларускага цэментавага завода, дэпутата Асіповіцкага гарсавета Я. Радзевіча ў атрыманні хабару ў асабліва буйным памеры і прыгаварыў яго да дзевяці гадоў пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў калоніі ўзмоцненага рэжыму і канфіскацыяй маёмасці. Я. Радзевіч быў затрыманы ў чэрвені гэтага года аператыўна-следчай групай упраўлення КДБ па Магілёўскай вобласці ў момант атрымання хабару -- 12 тысяч долараў ЗША.

ЮБІЛЕЙ НАВУЧАЛЬНАЙ УСТАНОВЫ



Перайменаванне Брэсцкага педагагічнага інстытута ва універсітэт супала з 50-годдзем з дня заснавання ВНУ, якое святкуецца ў гэтыя дні. Ва універсітэце 10 факультэтаў, на якіх займаюцца 3 740 студэнтаў стацыянара і 1 850 завочнікаў. За паўстагоддзя тут падрыхтавана для школ вобласці і рэспублікі больш за 30 тысяч настаўнікаў. Прафесарска-выкладчыцкі корпус налічвае каля 500 чалавек, палова з іх маюць вучоную ступень, больш за 250 -- выпускнікі універсітэта.
НА ЗДЫМКУ: Брэсцкі універсітэт.

СЕНСАЦЫЯ

## ПЕРАПЛАВІМ "ГЕРОЯЎ"

Як паведаміла столінская раённая газета "Навіны Палесся", у раёне цяпер жывуць шэсць Герояў Сацыялістычнай Працы. Але з нядаўняга часу на адну "Залатую Зорку" тут стала менш. Былая свінарка калгаса "17 верасня" Ніна Колбік аддала сваю высокую ўзнагароду на пераплаўку, атрымаўшы такім чынам чатыры заручальныя пярсцёнкі і дзве пары завушніц. Адну пару Ніна Фёдараўна падарыла дачцэ, а другую -- нявестцы.

ЗІМА

## ГАРАЧАЯ ВАДА — РАЗ НА ТЫДЗЕНЬ

Толькі раз на тыдзень (па нядзелях) падаецца гарачая вада ў кватэры жыхароў Навагрудка. Спачатку меркавалася, што гэта будзе рабіцца таксама па пятніцах і суботах, але, улічваючы, што падагрэў вады аўтаматычна павялічвае расход газу ў сістэме ацяплення, было вырашана спыніцца толькі на адным дні ў тыдзень. Запазычанасць за паліва і без таго вялікая. У выпадку, калі ўсталюецца халоднае надвор'е з устойлівай тэмпературай, блізкай да нуля градусаў і ніжэй, графік падачы вады будзе перагледзецца. Жыхары Навагрудка атрымаюць магчымасць карыстацца гарачай вадой толькі па выхадных днях, а, магчыма, штодзень па некалькі гадзін раніцай і ўвечары.

ХАБАРНІЦТВА

## ПАПАЎСЯ КАПІТАН

Сталі вядомы некаторыя падрабязнасці затрымання ў Пінску хабарніка ў міліцэйскіх пагонах.

Капітан міліцыі Р., якому 35 гадоў, лічыўся вельмі нядрэнным прафесіяналам. Яму было даручана весці крымінальную справу адносна групы вымагальнікаў, якія абіралі пінскіх прадпрымальнікаў і асоб, што займаюцца валютнымі аперацыямі. Мясцовая пракуратура атрымала інфармацыю, што следчы ўступіў у кантакт са сваякамі арыштаваных з мэтай атрымання хабару. За яго "вартавы закона" абяцаў палегчыць становішча абвінавачваемых і даць магчымасць пазнаёміцца з матэрыяламі крымінальнай справы, каб можна было аказваць ціск на сведак і пацярпеўшых.

Работнікі пракуратуры разам з прыбыўшымі з Брэста супрацоўнікамі аддзела па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі затрымалі капітана-хабарніка з доказамі злачынства. Пры ім было тры тысячы долараў ЗША. Сваю віну ён поўнасцю прызнаў, а на пытанне пракурора, чаму ён, следчы, пайшоў на злачынства, адказаў: "Калі займаешся гаспадарчымі справамі і пастаянна бачыш, якімі велізарнымі сумамі "варочаюць" злачынцы, а ты працуеш за нейкую міліцэйскую зарплату, то становішча крыўдна і шкада самога сябе".

# ХТО АБАРОНІЦЬ СТАРАСЦЬ?

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Дзеля гэтага быў уведзены індывідуальны каэфіцыент -- гэта суадносіны сярэдняга заробка за пяць апошніх гадоў працуючага да сярэдняга заробка па краіне. Але, калі прымаўся закон, дык ён быў разлічаны на стабільную эканоміку. Ніхто не мог прадугледзець, што ўзровень інфляцыі ў краіне будзе такі жахлівы, а мінімальны заробак сапраўды будзе тым мінімумам, на які амаль нічога не купіш. А менавіта ён пакладзены ў аснову механізма пераразліку пенсіі. Вось і атрымалася, што сёння ўсе пенсіі ўраўняліся і індывідуальны каэфіцыент не спрацоўвае. Глядзіце, максімальная пенсія па краіне 484 тысячы, сярэдняя -- 408 тысяч і 208 тысяч мінімальная; паміж максімальнай і сярэдняй амаль ніякай розніцы.

*-- Карацей кажучы, хацелі як лепей, а атрымалася як заўсёды.*

-- Мы якраз працуем над новым механізмам пераразлікаў пенсіі. Кожны павінен атрымліваць пенсію ў залежнасці ад сваёй працы, індывідуальны каэфіцыент павінен спрацоўваць, і не павінна быць ніякіх абмежаванняў пенсій. Але сёння мы ўсе ў абдымках нашай эканомікі.

*-- Вольга Браніславаўна, але нават калі вырашыцца пытанне з індывідуальным каэфіцыентам, усё роўна будуць людзі, у каго ён будзе нізкі, і відавочна, што ім дзяржава павінна дапамагаць. Як вы бачыце вырашэнне гэтай праблемы?*

-- З 2,5 мільёна пенсіянераў каля 300 тысяч атрымліваюць мінімальную пенсію. На гэтыя грошы не пражывеш, і тут трэба сказаць пра адрасную дапамогу або індывідуальны падыход. Гэтым павінны займацца мясцовыя аддзелы сацыяльнай абароны: яны лепей ведаюць, каму дапамога патрэбна ў першую чаргу. Па вопыту мне вядома, што часам крычыць больш не той, каму найцяжэй. На месцах патрэбы сваіх пенсіянераў ведаюць лепш. У нас ужо сёння тое-сёе зроблена: ёсць сталоўкі, дзе пенсіянеры атрымліваюць бясплатнае харчаванне, ёсць крама, дзе можна набыць самыя неабходныя рэчы па сабекошту, даволі танна, без магазінных накрутак. Наогул, гэтая справа вельмі добра наладжана ў Фрунзенскім раёне горада Мінска. Аб сапраўднай адраснай дапамозе, на жаль, у асноўным толькі размовы -- на яе поўнае здзяйсненне пакуль няма фінансавых магчымасцей. Але мы прапрацоўваем розныя варыянты. Чалавек у нашым грамадстве павінен мець гарантыі, што калі з ім нешта здарыцца, яго дзяржава падтрымае і не кіне ў бядзе.

*-- На мой дылетанцкі погляд, каб гэта сапраўды спраўдзілася, патрэбна карэннае рэфармаванне ўсёй сістэмы сацыяльнай абароны.*

-- У нашай структуры працуе шмат спецыялістаў, якія разглядаюць і абмяркоўваюць дзесяткі варыянтаў рэфармавання, вывучаюць сусветны вопыт. Карэнныя пераўтварэнні за месяц не правядзеш, яны вымагаюць шмат часу. Цяпер мы працуем над кодэксам законаў аб сацыяльным страхаванні, сярод якіх і закон аб так званай персаніфікацыі сацыяльнага страхавання насельніцтва. Мы плануем вынесці яго на абмеркаванне недзе ў лютым. Згодна з ім чалавек, які пачынае працоўную дзейнасць, будзе мець магчымасць сам паклапаціцца пра сябе. Гэта не выключае клопат дзяржавы, а таксама прадпрыемства, дзе ён працуе. Сёння ўжо ёсць людзі, якія працуюць над стварэннем першага недзяржаўнага пенсійнага фонду. Але зыходзячы з вопыту падобных фондаў у Расіі, да гэтага мы павінны падыходзіць асцярожна, каб нашы пенсіянеры не трапілі ў пастку накшталт гісторыі з фінансавымі кампаніямі. А наогул гэта ідэя мае перспектыву і будзе працаваць.

*-- Зразумела, усякая справа, каб яе зрабіць добра, вымагае пэўнага часу. Але ў даным выпадку падаецца мне немалаважным удзел і падыход да гэтай справы ўсяго насельніцтва Беларусі. Так павялося, што шмат хто лічыць, што дзяржава перад імі ў даўгу. Яны чакаюць, што прыйдзе добры дзядзька і ўсё ім дасць.*

-- Разумею, што вы маеце на ўвазе. Калі мы прымалі Закон аб рэабілітацыі інвалідаў, мы адчулі моцнае супрацьстаянне. Нашы людзі пакуль не разумеюць, што ўсё ў іх жыцці залежыць, у першую чаргу, ад іх саміх, што ўсе яны асобы, што калі я паважаю цябе, ты будзеш паважаць мяне. Паглядзіце, у якое месца ў нас можна ўвайсці ці ўехаць у інваліднай калясцы. Я не кажу нават пра культурныя ўстановы -- у звычайную паліклініку. Інваліды ў нас адлучаны ад грамадства. Наогул слова "інвалід" успрымаецца хваравіта. Мы казалі, тлумачылі, што так не павінна быць. Інваліды павінны працаваць, адчуваць, што патрэбны грамадству, яны роўныя, такія ж, як усе. Але і інваліды, і грамадства выхаваны інакш, і тут нам шмат што трэба зрабіць, каб змяніць іх статус. І тычыцца гэта не толькі інвалідаў, наогул усіх. І ў першую чаргу праблема патрабуе зусім іншага дзяржаўнага падыходу. На цяперашні момант у нас няма нават навукова-даследчага інстытута, які б заняўся праблемай. Некалі ён у нас быў, але ў 1992 годзе яго перадалі Міністэрству аховы здароўя, а нам навукоўцы таксама патрэбны. У нас шмат задач, якія мы павінны распрацоўваць і ажыццяўляць. Асобная праца павінна праводзіцца і з маладымі, каб яны разумелі, што трэба дбаць аб сваёй старасці ўжо сёння. Нядаўна ў міністэрстве створаны аддзел сям'і і гендарных прабле... Але ў мяне амаль няма магчы... ай працаваць на перспектыву. Увесь час ідзе на "выбіванне" грошай для пенсіянераў. Чаму я павінна выпрошваць грошы, якія мне дзяржава абавязана даваць?

*-- А сапраўды, чаму...*

-- На першага кастрычніка суб'екты гаспадарання павінны фонду сацыяльнай абароны 680 мільярдаў рублёў. Многія прадпрыемствы стаяць, і таму грошай у іх няма. Заработную плату не плацяць па некалькі месяцаў. А некаторыя прадпрыемствы на яе выплату бяруць мэтавы крэдыт, які не падлягае падатку, і з яго не бярэцца сацстрах. Галоўнай крыніцай даходаў фонду сацабароны з'яўляюцца адлічэнні ад фонду аплаты працы, якія па закону складаюць 35 працэнтаў. А калі гэтых адлічэнняў няма, то, самі разумееце, колькі трэба аддаць і сіл, і часу, каб кожны месяц выплаціць пенсіі. Мы робім усё ад нас залежнае. Пенсія ў гэтым годзе расла хутчэй і дынамічней, чым заработак, а таму суадносіны сёння паміж сярэднім заработкам і сярэдняй пенсіяй складаюць 43--44 працэнты. Гэта вельмі высокі паказчык, калі параўнаць з іншымі краінамі. Я нядаўна размаўляла са сваім амерыканскім калегам, дык у ЗША гэты паказчык -- 40 працэнтаў.

*-- Атрымліваецца, нашы пенсіянеры жывуць лепей за амерыканскіх?*

-- Тэарэтычна так. Я ўжо казала, справа ў пункце адліку -- у мінімальным заробку. У кожнай краіне свае праблемы па сацыяльнай абароне насельніцтва. Але я веру, што сітуацыя ў нас зменіцца і грошы ў дзяржаве з'явяцца. Сёння ўсё залежыць ад усіх нас. І вельмі важна, каб не згубілася пераемнасць паміж пакаленнямі, каб у такіх варунках мы не страцілі дабрыню і міласэрнасць, павагу да старэйшых людзей, усіх, хто патрабуе дапамогі.

**Таіса БАНДАРЭНКА.**

**P.S. 27 кастрычніка Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь прызнаў не адпавядаючымі Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь асобныя палажэнні Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 1 верасня 1995 года N 350 "Аб некаторых пытаннях рэгулявання працоўнай дзейнасці і пенсійнага забеспячэння грамадзян". Гэты вердыкт быў вынесены пасля двухдзённага разгляду справы ў зале пасяджэнняў Канстытуцыйнага суда.**

## АДРАС ВЫСТАВЫ - ТРАЕЦКАЕ ПРАДМЕСЦЕ



# КАСМІЧНАЯ СУТНАСЦЬ ЖАНЧЫНЫ

Залатымі восеньскімі днямі ў цудоўным месцы Мінска -- Траецкім прадмесці ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры ўрачыста адчыніла дзверы не менш цудоўная выстава пад назвай "Любоў мая... мая Беларусь!", прысвечаная Міжнароднаму году жанчыны.

"Жанчына -- дачка народа, у ёй яго рысы, яго прыгажосць, яго мудрасць, яго непераможнае жыццялюбства і невычэрпны творчы пачатак", -- так хораша казаў некалі Ніл Гілевіч. Аб гэтым выстава. Яна паказвае гледачу знакамітых беларускіх жанчын ад старажытнасці да нашых дзён. Жанчын, якія праславілі сябе духоўным подзвігам, шмат зрабілі для Адраджэння гісторыі, культуры, мовы нашага народа. Гаворыць пра самаадданасць, прыгажосць, працавітасць, дабрыню і талент, пра беларускую Маці... Мадонну... Паэтку... Асветніцу.

Выставу як бы благаслаўляе ік... Смаленскай Багародзіцы (пачатак XIX стагоддзя) з асабістага архіва Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі. З яе пачынаецца спатканне з жанчынай. Т... сустракаем Ефрасінню Полацкую - ...ікую асветніцу, адну з першых кананізаваных жанчын на ўсходнеславянскіх землях; княгіню Уршулю Радзівіл -- драматурга, перакладчыцу, аўтара вершаў; першую беларускую пісьменніцу -- песняра свабоды -- Цётку (Алаізу Пашкевіч); Зоську Верас; Канстанцыю Буйло; перад намі паўстае таленавітая паэтка-пакутніца, чалавек нязломнага гарту і мужнасці Ларыса Геніюш; мы бачым простых, але вялікіх жанчын-маці -- Бянігну Іванаўну Луцэвіч, Алену Сцяпанаўну Броўку, Марыю Ягораўну Багдановіч; жонку Максіма Гарэцкага -- беларускую пісьменніцу, перакладчыцу, педагога -- Леанілу Чарняўскую; паэтку і перакладчыцу Наталлю Арсенневу, вядомую пісьменніцу Алену Васілевіч; таленавітую паэтку, чалавека трагічнага лёсу -- Яўгенію Янішчыц; вядомую беларускую мастачку Нінель Шчасную.

Колькі цікавых жанчын! І спатканне з кожнай з іх -- гэта навела ці апавяданне пра жыццё і творчасць, пра жаночы лёс, пра невычэрпную любоў да роднай зямлі.

Вялікая праца праведзена арганізатарамі выставы -- Тэрэзай Голуб, Святланай Майхровіч, мастаком Генадзем Чыстым, якія ўпершыню мовай музейнага экспаната на ніве літаратуразнаўства зрабілі спробу адлюстраваць высокую чалавечую годнасць, высакароднасць, касмічную сутнасць жанчыны і імкнуліся прыцягнуць увагу да праблем сённяшняй жанчыны і наогул нашай Бацькаўшчыны.

**Алена КАЗЛОВА.**

**НА ЗДЫМКУ:** у зале выставы.

## "КРЫШТАЛЬНАЯ НЯВЕСТА"



**Жыццё прымусіла працаўнікоў гомельскага торфазавода "Бальшавік", што выпускаў абсталяванне для здабычы торфу, часткова перакваліфікавацца на зусім іншы від дзейнасці. Адным з варыянтаў з'явілася адкрыццё ўчастка па вырабу сувеніраў са шкла: дэкаратыўных кашолачак, розных ваз, цукерачніц. Многія работніцы "Бальшавіка" хутка асвоілі новую для іх спецыяльнасць кварцавыдзімальшчыка і сёння ўжо выраблююць вельмі прыгожыя рэчы. Але адным з найбольш яркіх і эфектных сувеніраў з'яўляецца "крыштальная нявеста".**

**НА ЗДЫМКАХ: вучаніца кварцавыдзімальшчыка Святлана БАРАНАВА; сувенір -- "крыштальная нявеста".**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

# З ЛЮБОЎЮ І ПАДЗЯКАЙ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Гэтая "прыгажосць не свайго" засталася ў Райніса да канца яго дзён:

**По паданні продкі маці --**
**З вольнае Літвы баяры,**
**Што прыйшлі ў часіны мору,**
**Як збязлюдзеў край зэмгальскі.**
**Кроў латышская з літоўскай**
**Ува мне цякуць і робяць**
**Дух мой духам паяднання,**
**Абавязкамі багацяць.**

*("Сонечныя леты". (Эпас маленства).*
*Пераклад Рыгора БАРАДУЛІНА.*

"Духам паяднання" і былі асвячоны сёлета Райнісаўскія дні на Беларусі, якія правялі Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі, Рада таварыства "Беларусь -- Латвія", Саюз беларускіх пісьменнікаў. Да правядзення свята падключыліся Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь, Беларускі акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа, гарадскія ўлады Віцебска, Генеральнае консульства Латвійскай Рэспублікі ў горадзе Віцебску, а таксама Дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва, Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі.

Адкрываючы літаратурна-музычную вечарыну "Ветрык, вей!", якая праходзіла ў Беларускім таварыстве дружбы, народная артыстка Марыя Захарэвіч прыкліквала самога Райніса, нагадаўшы словы паэта з яго драмы "Ветрык, вей!":

**Я ўсцешаны, што ўспомнілі мяне вы,**
**Што запрасілі, як свайго, мяне**
**На свята вашай радасці вялікай.**

Як пра свайго, гаварылі пра Я. Райніса пісьменнікі Васіль Зуёнак, Сяргей Грахоўскі, Анатоль Вярцінскі, дэкламавалі вершы і спявалі песні на яго словы дзеці з 11-й школы і з школы N 98 на вуліцы Я. Райніса ў Мінску. Гучалі цымбалы, латышскія дайны... Віцэ-консул пасольства Латвійскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь сп. Гундэга Гробіня была ўсцешана і падарункамі, і шчырай прыязнасцю беларусаў да яе краіны, культуры, якую ўвасабляў Яніс Райніс.

Ён у пісьме П. Стучку ў 1918 годзе пісаў: "...мне патрэбна Латвія і свабода. І свабода азначае магчымасць жыць". Гісторыя дала такую магчымасць -- Райнісу і яго Латвіі. Нашай Латвіі -- таксама. Бо дзякуючы подзвігу Райніса, беларуская нацыянальная меншасць знайшла ў ім свайго заступніка, абаронцу, апекуна. Сяргей Сахараў, актыўны грамадскі дзеяч і педагог, адзначаў: "Пад духоўным кіраўніцтвам Я. Райніса адбывалася ўзаемадзеянне і сяброўскае супрацоўніцтва між латышскай і беларускай культурамі". Паэтка Вера Вайцюлевіч (Гаротная) у 1932 годзе адна з першых прысвяціла Райнісу свой верш:

**Разбудзіў нашы спячыя душы**
**І стаючую кроў узбурліў.**
**Зацвярдзелыя сэрцы узрушыў,**
**Розум светлаю думкай наліў.**

Таму становяцца зразумелымі словы Райніса, які назваў беларусаў сваімі суайчыннікамі: "...у нашых інтарэсах падтрымаць самастойнасць беларусаў, каб яны маглі жыць лепей, каб ім не прыходзілася быць на паслугах у іншых народаў".

З тых часоў прайшлі вялізныя пярэкрыты ў гісторыі, але Райніс і сёння застаецца надзвычай надзённым, застаецца прыкладам -- і для грамадскіх суполак, і для ўладных структур -- у вырашэнні самага наболеўшага -- стварэння гуманнай, свабоднай, чалавечнай Еўропы. Дні Райніса на Беларусі з выяўленнем любові і падзякі Вялікаму Латышу прадэманстравалі гатоўнасць усіх дзейных асобаў свята да добрасуседскага сужыцця, узаемапавагі і паразумення, да спасціжэння і ўзбагачэння прыгостамі латышскай культуры, для служэння таму, што нас лучыць, а не раз'ядноўвае.

Клуб "Спадчына" ў школе N 98 правёў урок, прысвечаны латышска-беларускім "Шляхам спараднення". У школе N 11 на вуліцы Я. Райніса ў Мінску папрасілі прадстаўнікоў пасольства Латвійскай Рэспублікі наладзіць сяброўскія стасункі з аднагодкамі ў ліцэі на бульвары Я. Райніса ў Рызе. Коласаўскі тэатр у Віцебску ў гонар пачатку 70-га тэатральнага сезона (а на адкрыцці гэтага тэатра ў 1926 годзе быў і Райніс) запрасіў землякоў паэта -- калектыў Даўгаўпілскага драматычнага тэатра са спектаклем паводле аднаго з незакончаных твораў Я. Райніса. З выпадку святкавання 130-годдзя Я. Райніса віцэ-консул Латвійс[...] Рэспублікі ў горадзе Віцебску сп. А[...]д Круззэ наладзіў урачысты прыём.

Для мяне асабіста Райнісаўскія дні закончыліся прыемнай неспадзяванкаю: па візе, выдадзенай сп. Армандам Круззэ для культур[...]а візіту ў Латвію, я прысутнічаў на ад[...]цці Нядзельнай беларускай школкі на вуліцы Райніса ў Даўгаўпілсе, якую стварыла культурна-асветніцкае таварыства "Уздым" пры садзеянні гарадской думы, Генеральнага консульства Рэспублікі Беларусь, спонсараў-дабрадзеяў. У горадзе, дзе ў 1921 годзе ўзнікла таварыства "Бацькаўшчына", дзе працавалі гімназія, Беларускі народны тэатр, сёння мацуюцца райнісаўскія традыцыі супольнасці. А ў Рызе я трапіў на святкаванне 5-гадовага юбілею латвійскага аддзялення Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, якое носіць імя "Прамень", выдае газету з такім жа найменнем. Урачыстасці адбываліся ў цудоўным палацы на вуліцы Крыш'яна Барана ў памяшканні Саюза пісьменнікаў Латвіі. І старшыня Саюза пісьменнікаў Віктар Аватыньш, і дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Андрыс Вілкс, і дырэктар музея літаратуры і мастацтва імя Я. Райніса Іварс Зукуліс, і супрацоўнікі выдавецтва "Спрыдытыс" ("Пакацігарошак"), з якім заключана дамова аб творчых узаемадачыненнях, усе, з кім мне давялося гутарыць у Рызе, выказалі сваю прыхільнасць і гатоўнасць да супрацоўніцтва ў новым часе і ў новых варунках, праводзіць культурны ўзаемаабмен. Для палітыкаў, для самых шырокіх слаёў грамадства, дзейнікаў народнай дыпламатыі ёсць у Райніса адна немалаважная падказка. Вось яна, сказаная ім на Сойме ў 1922 годзе, калі абмяркоўвалася па яго ініцыятыве беларускае пытанне: "Што нас беларусы цікавяць, паказвае тое, як накіроўваем свае сілы ў бок Беларусі, якая ад нас стаіць далей; хаця ў беларусаў няма ніякага другога накірунку, як на Балтыйскае мора. Яны па-сваяцку сябруюць з Украінай. Сама ж Украіна, або Маларасія, ад беларусаў вельмі далёка. Украіна бліжэй да паўднёвага мора, а беларусы бліжэй да паўночнага мора. Значыць, беларусы пры сваім геаграфічным становішчы бліжэй да літоўскай дзяржавы і Латвіі. Калі мы паглядзім у гісторыю, то ўбачым: Беларусь нас больш цікавіць. Калі мы гаворым пра розныя камбінацыі, якія магчымы пры існаванні Латвіі, тады ў гэтыя камбінацыі трэба ўключыць не толькі літоўцаў, але [...]беларусаў".

На жаль, да гэтага [...] не выкарыстаны многія райнісаўскія "камбінацыі". Не заключана і пагадненне аб культурным супрацоўніцтве між дзвюма дзяржавамі. То навошта супрацоўляцца патрэбам дня?

Райніс у атачэнні ср[...] сяброў чакае адказу.

**[...]аргей ПАНІЗЬНІК,**
**старшыня Рады таварыства**
**"Беларусь — Латвія".**



**У Беларускім таварыстве дружбы адбыўся вечар, прысвечаны 130-годдзю з дня нараджэння латышскага паэта Яна Райніса.**
**НА ЗДЫМКУ: выступае старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі Васіль ЗУЁНАК. Побач -- Сяргей ПАНІЗЬНІК і Марыя ЗАХАРЭВІЧ.**
**Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА.**

**Яніс РАЙНІС**

## СОНЦАВА ГНЯЗДО ТАДЭНАВЫ

**Шчодра першыя падзеі**
**Абдымае Тадэнава.**
**Ілукстэ і Верхнязем'е,**
**Замчышча каля мястэчка.**

**Я латгальцам нарадзіўся,**
**Зэмгалец, напаўлатыш, каб**
**Тры латышскія плямёны**
**І літоўскія ўбрацелі.**

**Неўміручы "Пан Тадэвуш"**
**Даў сваё імя маёнтку.**
**А герой ці вам вядомы,**
**Хто ішоў супроць царызму.**

**На гады майго з'яўлення**
**Бунт вялікі польскі выпаў, --**
**Карнік Мураўёў няшчадна**
**Задушыць паспеў паўстанне.**

**Я ўнутры часін вялікіх**
**Нарадзіўся, давялося**
**Вольны польскі люд убачыць**
**І братоў літоўцаў вольных.**

*"Сонечныя леты" (Эпас маленства).*
*Пераклад Рыгора БАРАДУЛІНА.*

**Яніс РАЙНІС**

Латышы -- народ маленькі, і я думаю, што ў нашых інтарэсах падтрымаць самастойнасць беларусаў, каб яны маглі жыць лепей, каб ім не прыходзілася быць на паслугах у іншых народаў.

*"Беларускае пытанне".*
*З прамовы на сейме 27 чэрвеня 1922 г.*

**Яніс РАЙНІС**

У асяродку гэтага працоўнага люду ёсць якраз тыя, хто імкнецца да культуры і да брацкага супрацоўніцтва з латышскім народам. Мы, латышы, вельмі мала ведаем пра нашых суайчыннікаў-беларусаў, мы нават не ўмеем іх па-сапраўднаму адрозніць ад велікарусаў; гэтаму беднаму народу нават адмаўляюць у праве на самавызначэнне як народа самастойнага: і палякі, і рускія хочуць іх залічыць да сваёй народнасці. Беларусы яшчэ і зараз вядуць за сваё самавызначэнне такую ж барацьбу, якую наш народ вёў у часы абуджэння супраць немцаў і рускіх.

*"Госці Рыгі".*
*"Сацыял-дэмакрат", N 58, 1924 г.*

**Кастусь ЕЗАВІТАЎ**

Як паэта, як грамадскі дзеяч і як чысцейшай душы чалавек -- Ян Райніс быў выдатнейшай адзінкай свайго народу, адзінкай, якія зьяўляюцца раз у стагодзьдзе, а часам і раз за ўсю гісторыю народу.

...Для нас ён быў ня толькі паэтай і вялікім чалавекам, але, апроч усяго гэтага, яшчэ і нязьменным прыхільнікам нашага адраджэнчага руху і абаронцаю нацыянальна-культурных правоў і патрэб беларускае меншасьці ў Латвіі.

**Яніс РАЙНІС**

Я сам паходжу з Латгаліі, з той яе часткі, дзе жыве многа беларусаў. Мяне звязвае з беларусамі сяброўства. Я ўзяў на сябе абавязкі абараняць іх інтарэсы...

*З прамовы Я. Райніса на адкрыцці Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі ў Мінску. 14.11.1926 г*

**Пімен ПАНЧАНКА**

У Рыгу, як і ў Рэвель, ездзіла многа беларусаў на заробкі. Многія з іх засталіся там назаўсёды, пусцілі новыя карані. Ведаў, што там жыў вялікі паэт Ян Райніс, вершы якога я любіў. Райніс добра ведаў беларускі народ, быў у таварыскіх адносінах з Янкам Купалам і Якубам Коласам. Прыязджаў да нас у Мінск.

*"Падперазаная сіняй Даўгавай".*

**Аляксей ПЫСІН**

У памяці Латгале -- радзіма вялікага песняра і шчырага сябра нашай Беларусі Яна Райніса. Кожны раз, бываючы ў Латвіі, наведваю музей Райніса ў Маярах, прычашчаюся мужнай і ў той жа час пяшчотнай паэзіяй Яна Райніса. Прыбалтыка стала адной з тэм у маёй творчасці... А паэзія Яна Райніса ў самым галоўным яе вызначэнні сугучна паэзіі нашага Янкі Купалы. І я ў сваіх адносінах да Янкі Купалы і Яна Райніса -- стаўлю іх побач...

З гэтага дня мы пачынаем збліжэнне з Усходам, з народамі Усходу. Два вялікія народы, з якімі мы хочам збліжаць нашу культуру, гэта беларусы і вялікарусы. Асабліва сімпатычныя нам беларусы, гістарычна блізкія літоўцам.

*Яніс РАЙНІС, старшыня таварыства культурнага збліжэння з народамі СССР. 2 чэрвеня 1929 г.*

---

# ХРОНІКА БЕЛАРУСАЗНАЎЧАГА ЖЫЦЦЯ

## ЧАСОПІС АНГЛІЙСКІХ БЕЛАРУСІСТАЎ

У 1965--1988 гадах даволі шырокую вядомасць заваяваў "Джорнэл оф беларашн стадыз" ("Часопіс беларускіх даследаванняў"), які выходзіў у Лондане спачатку як квартальнік, а потым як штогоднік. Але ў апошні час яго выданне па розных прычынах прыпынілася. І вось -- адраджэнне пад крыху зменена назвай -- "Аказіянальнае выданне па беларускіх даследаваннях" (1995, N 1). Пабачыў ён свет стараннямі прафесараў Лонданскага універсітэта Джыма Дынглі і Арнольда Макміліна.

У першым нумары -- чатыры раздзелы: "Мова", "Літаратура", "Гісторыя", "Рэцэнзіі". У іх змешчаны артыкулы "Тры літаратурныя мовы Беларусі" В.М. ду Фу, "Беларускія пейзажы ў апавесцях Тадэвуша Канвіцкага" Н. Тэйлар. А. Латышонак аналізуе склад студэнцтва з Вялікага Княства Літоўскага ў Кракаўскім універсітэце ў 1469--1536 гадах, Д. Саундарс -- ролю Мікалая Румянцава ў "рускім адкрыцці Беларусі". Рэцэнзуюцца кнігі "Руская мова ў Беларусі" А. Міхневіча і "Пяць біблейскіх кніг у яўрэйскім перакладзе на беларускую мову" М. Альтбаўэра. У канцы падаюцца звесткі пра аўтараў і спіс выданняў англа-беларускага таварыства і Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лондане.

## ГОСЦЬ З МАКЕДОНІІ

Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны наведаў вядомы македонскі славіст акадэмік Блажа Рыстаўскі. Ён цікавіўся, як беларуская вучоныя распрацоўваюць праблемы фармавання і развіцця нацыянальнай самасвядомасці. Прысутныя на сустрэчы вучоныя прыйшлі да вываду, што ў гістарычных лёсах Беларусі і Македоніі ёсць шмат агульнага, тыпалагічна блізкага.

Госць пакінуў для бібліятэкі цэнтра свой двухтомнік "Македонскі летапіс. Раскопкі на літаратурныя і нацыянальныя тэмы" і іншыя свае працы, атрымаў у адказ зборнік "Беларусіка". Ён абяцаў зрабіць захады, каб стварыць у Македоніі суполку беларусістаў (беларуская мова выкладаецца ва універсітэце ў Скопле).

**Алена КАЗЛОВА,**
**рэферэнт МАБ.**




Сяргей ПЯСЕЦКІ




# "КАХАНАК ВЯЛІКАЙ МЯДЗВЕДЗІЦЫ"

Ня ведаю, калі перайшоў "другую лінію" і як апынуўся на граніцы. Памятаю, што ў нейкі момант прагучалі стрэлы з карабіна. Гэта было справа ад напрамку майго шляху. Тыя стрэлы на пэўны час абвастрылі маю чуйнасьць, і я зноў амаль вярнуўся да прытомнасьці. Сьпяшаючыся, падаўся ўлева. Калі ж стрэлы прагучалі зноў -- гэтым разам вельмі блізка ад мяне, -- пачаў паўзьці па траве, якая здалася надзвычай халоднай.

Наступнае, што памятаю, як зь цяжкасьцю ўзьбіраўся на нейкі ўзгорак, як зваліўся на ім, пазбаўлены сілы варушыцца. Крыху пазьней усьвядоміў, што гэта -- Капітанская Магіла... Тут ужо я амаль поўнасьцю страціў прытомнасьць. У нейкі момант да мяне зноў вярнулася адчуваньне рэальнасьці, і я нечакана заўважаю незвычайную рухлівую белую пляму... Яна пасоўваецца туды-сюды... Праваліваецца ўніз, падымаецца ўгару, часам зусім зьнікае зь відавоку, то ўсё больш набліжаецца да мяне. Нейкім намаганьнем памяці вяртаюцца да мяне згадкі з апавяданьня Юзіка Трафіды і іншых перамытнікаў пра здань... Пасьля прыгадалася, што каля кургана я ўпершыню сустрэўся з Сашкам Вэбліным. "Каб ён ведаў, што зараз знаходжуся тут!" А здань усё набліжаецца да мяне. Ужо блізка... яшчэ бліжэй...

Потым... праз нейкі час бачу нахілены над сабой твар: адрозьніваю спакойны, суровы позірк вачэй і цёмныя бровы. Чую голас... У мяне пра штосьці пыталі, я нешта адказваў, але ня памятаю што.

Нарэшце апошні водбліск сьвядомасьці: хтосьці спытаў, ці ведаю я Петруся... Заўважыў, што пачынаю сьмяяцца, стукаючы ў перапалох зубамі:

-- А як жа... ведаю... ведаю... Яго ня ведаць!.. Ха!.. ха!.. ха!..

Затым усё панеслася з ашалелай хуткасьцю ў бязьмежную далячынь... Мігцяць барвы... Грымяць гукі... Шалее навальніца галасоў... вірують твары, вобразы, фарбы... Мкне наперад страшэнны, гарачы прыліў, які падымае мяне ўгару, а пасьля кідае на дол... у чорную халодную бясконцасьць...

## 5

Апрытомнеў у малым пакойчыку. Справа заўважыў дзьверы, спераду прыадчыненае вакно, завешанае фіранкай, якую хістаў лёгкі ветрык.

Прыслухаўся. Да маіх вушэй аднекуль здалёк з надворку даляталі жаночыя галасы. Ня змог зразумець, дзе знаходжуся. Ніколі раней ня быў у тым пакойчыку. Хацеў устаць з ложка, аднак не хапіла сіл падняцца. Тады голасна вымавіў:

-- Ёсьць хто ў хаце?

Дзьверы ў пакой адчыніліся, і ў праёме ўбачыў малога чалавечка. Ён глядзеў на мяне праз тоўстыя шкельцы акуляраў і пасьміхаўся.

-- Прачнуўся? -- запытаўся праз хвіліну.

-- Так.

Прыпомніў, што гэта ж гадзіньнікавы майстар Мужанскі, у якога жылі Юлік Вар'ят і Пятрусь Філосаф. Ня мог толькі ўцяміць, якім чынам я апынуўся тут.

-- На, напіся вось гэтага! -- Мужанскі наліў у шклянку нейкіх лекаў і даў мне выпіць. -- Хлопцы прыйдуць пазьней.

Ён выйшаў з пакоя, а я зноў заснуў. Другі раз прачнуўся ўвечары. У маім пакоіку было цёмна. Праз прыадчыненыя дзьверы пачуў галасы сваіх сяброў. Гукнуў іх. У пакой увайшлі Юлік Вар'ят і Пятрусь, уносячы запаленую лямпу.

-- Як ты сябе адчуваеш? -- запытаўся Юлік.

-- Выспаўся?.. -- дадаў Пятрусь.

-- Безумоўна... Выспаўся...

-- Я думаю!.. Доўга спаў!.. Ой, доўга! -- прамовіў Юлік.

-- Як я апынуўся тут?

Сябры зірнулі адзін на аднаго, а Юлік запытаў:

-- Дык ты нічога ня памятаеш?

-- Не... Праўда, памятаю Капітанскую Магілу і... здань... размаўляла са мной.

Усьміхнуўшыся, Пятрок прамовіў:

-- Уласна кажучы, гэтая здань уратавала цябе, бо ты альбо там загінуў бы, альбо падабралі б цябе зялёнкі!.. Як пачуваешся?

-- Добра.

-- Табе размаўляць ня цяжка?

-- Не.

-- То раскажы, як ты туды дабраўся? Толькі памалу і падрабязна. Маем час, -- прам[illegible] Пятрусь.

Я пачаў апавядаць ім пра ўсё, што перажыў з той раніцы, калі мяне арыштавалі на пункце ў Бамбіны. Сябры часта пераг[illegible]нялі і задавалі пытаньні.

Падчас размовы пачулі, ш[illegible] дзьверы ў вялікі пакой адчыніліся. Пазнаў голас Лорда. Праз хвіліну сябра радасна прывітаўся са мной.

-- А я так перажываў за цябе! -- вымавіў Лорд. -- Ня мог даведацца, што з табой здарылася.

Яны зноў пачалі распытваць мяне, і я падрабязна расказваў ім пра арышт, знаходжаньне ў "Чрезвычайке" і Допры, аб прысудах на высылку, пра ўцёкі з вагона і пра зваротны шлях з-за граніцы.

Сябры задавалі бясконцыя пытаньні і шчыра цешыліся шчасьлівым заканчэньнем усіх маіх прыгодаў. Потым я запытаў Лорда, што стала за імі пасьля майго арышту.

-- Ведаеш, -- прамовіў Лорд, -- мы чакалі цябе 5 хвілін, чакалі 10, чакалі квадру гадзіны: нічога, анічога... Раімся, што рабіць? Адны кажуць: вяртацца! Другія: паслаць кагосьці на мяліну. Ну, Шчур і пайшоў на разьведку. Палямі дайшоў зза ду да хутара, тудой жа прабраўся да дзядзінца. Убачыў салдат: ходзяць па падворку, зазіраюць у стадолу. Справа зразумелая -- засыпалі. Ну, ён зараз жа да нас і расказвае гэта. Мы за ношкі і гайда назад! Аднак хлопцы проста валіліся ад стомленасьці. Ледзьве паспелі да сьвітаньня дабрацца да Старасельскага лесу. Віхура крыху сунялася. Забраліся ў самую сярэдзіну лесу. Там былі пасечаныя і складзеныя ў шліхты дровы. Расклалі вогнішча і збольшага абсушылі апратку. Пасьля полымя трэба было загасіць, баяліся, каб ня ўбачылі дым здаля. Мелі з сабой 4 пляшкі сьпірытусу, і гэта ўратавала. Неяк дачакаліся вечара і хутчэй да граніцы. Ледзьве жывыя дабрылі назад. Лёва і Алігант захварэлі...

-- Заплацілі вам жыд за дарогу? -- запытаўся я ў Лорда.

-- А як жа?.. У два разы болей -- па трыццаць рублёў кожнаму. А пункт у Бамбіны закрыўся назаўсёды.

-- Пасьля куды хадзілі?

-- Па-рознаму. Я зараз хаджу з групай Юрліна. Шчур таксама. Але ходзім рэдка. Найперш да гарэлкі зарабляем, а на гарэлку нестае... Чакаем восені...

-- Ніхто з хлопцаў больш не папаўся?

-- З нашых ніхто... Зараз мала хто ходзіць...

-- Што яшчэ чуваць?

Хлопцы пачалі апавядаць шмат навін. Потым сказалі, што яны пусьцілі па мястэчку пагаласку, што я нібыта выехаў у Вільню. Зараз, пасьля выздараўленьня, павінен быў гэта пацьвердзіць. Пра маю засыпку за мяжой ведаюць толькі самыя надзейныя хлопцы. Лорд даў мне трыццаць залатых рублёў.

-- Гэта за што? -- запытаўся я яго.

-- За тваю апошнюю ходку... У два бакі... Калі паправішся, сходзім да Бэргера. Табе належыць узнагарода за вырата ваньне групы. Тавар быў дарагі. Ацаліў жыду не меньш 3 000 даляраў, а магчыма, і значна больш... Размаўлялі зь ім пра гэта. Акрамя 30 рублёў даў мне яшчэ 70.

Я слухаў яго ня вельмі ўважліва, а пасьля запытаўся:

-- Як ты думаеш, чаму ў Бамбіны была засада?

-- Хтосьці нас пягнуў! -- адказаў Лорд. -- Інакш ніколі так пэўна не чакалі б нас... Знарок на не палілі сьвятла. Пахаваліся ў сенцах, у стадоле і за занавескай... Бамбіну і нас нехта засыпаў!..

-- Не хто іншы, як ён! -- прамовіў я, думаючы пра Альфрэда.

-- І я так думаю! -- дадаў Лорд. -- Толькі адкуль жа ён даведаўся, дзе знаходзіцца наша мяліна?

-- Магчыма, нехта з хлопцаў п'яным прагаварыўся, а пасьля зь языка на язык, і дайшло да Альфрэда? -- выказаў сваю думку Юлік.

-- Хіба што так, -- прамовіў Лорд. -- Але нічога... Атрымае ён некалі за сваё! За ўсё адразу!..

Назаўтра я так добра пачуваўся, што апрануўся, і разам з Юлікам выйшлі ў горад. Было цёпла. Сонца, шалеючы промнямі сьвятла, залівала мястэчка. На дарозе зайшлі за Лордам і разам падаліся на Букраўку да Бэргера.

-- Трэба крыху патрэсьці цабэрак! -- вымавіў Юлік. -- Ёсьць адкуль і ёсьць што. Выратаваў яму цэлую партыю тавара.

Бэргер быў у хаце. Засталі яго ў стаповым пакоі, загрувашчаным дарагой мэбляй, што не адпавядала малому па памерах драўлянаму будынку. Яна была ўся разьбяная. Вялікія крэслы, абцягнутыя скурай, выдатны буфет, вялізны стол.

Я ўбачыў тыповую жыдоўскую постаць. Пацiраючы далоні, Бэргер запрасіў нас у бакавы пакойчык.

-- Там нам будзе зручней, і ніхто з вуліцы ня ўбачыць.

У гэтым пакоі ўздоўж сьцен стаяла некалькі вялікіх куфраў, зачыненых на замкі-калодкі. Пасярэдзіне стаяў доўгі стол, які займаў усю астатнюю прастору. Праз прыадчыненыя дзьверы з суседняга пакоя далятаў сакавіты дзявочы голас, напоўнены ўсходняй меланхоліяй:

**-- О, баядэра, я кахаю цябе!**
**О, баядэра,**
**та-рім та-ра-рам!**

Лорд засьмяяўся.

-- Ну, Шлёма, колькі за гэтую баядэру аддаеш пасагу?

-- Уй, які там пасаг! Навошта ёй пасаг? Яна сама золата!

-- Ну, ну, не кажы! Сама меньш на паўлімона зацягне!

Жыд крыху ўсьміхнуўся, зь пяшчотай пагл[illegible] бараду і запытаўся:

-- Што пан Баляслаў мне скажа? Ёсьць нейкі інтарэс?

-- Тут наш хлопец вярнуўся, -- Лорд рухам галавы кіўнуў у мой бок. -- Ш[illegible] ведае... Той, што нам у сакавіку групу ўратаваў, а сам папаўся... Сядзеў у Допры. І ЧК. Там у яго забралі ўсе грошы і прысудзілі да высылкі... Уцёк па дарозе!.. Ад Шлёмы яму належыць прэмія... для расфартаваньня...

-- Гэта той... Уладак!..

-- Так.

-- Я зараз, -- прамовіў жыд і выйшаў з пакоя. Ён хутка вярнуўся з маладым жыдком, убраным з прэтэнзіяй на элегантнасьць. Я пазнаў Лёву і прывітаўся зь ім. Некалькі хвілін размаўлялі, а пасьля Лорд прамовіў:

-- Ну, Шлёма, трасяні мяшок, бо мы хочам icьці абмыць вяртаньне сябра. За твой жа тавар ён добра дастаў у бакі і больш трох месяцаў вошы карміў. Забыўся нават, які смак у гарэлкі...

Жыд выцягнуў з кішэні доўгую ў пацерках каліту, напэўна, зробленую ўласнаручна кімсьці з сям'і яму на імяніны ў падарунак. Дастаў зь яе і паклаў на стол 10 дзесяцірублёвак, пяшчотна датыкаючыся да іх пальцамі. Падсунуў да мяне.

-- Калі ласка. На шанс пану Уладзіславу...

Я ўзяў грошы, і мы разьвіталіся са Шлёмам.

-- Скварны тартар! -- вымавіў на вуліцы Лорд. -- Столькі тысяч ты яму ашчадзіў, а ён сотню адваліў. -- Хвіліну памаўчаў, а пасьля дадаў: -- Таму і агранды робім!.. Такі лепей усё страціць, чым за працу добра ўзнагародзіць!

Потым мы накіраваліся да Гінты. Калі ўвайшлі ў наш салон, убачылі вясёлыя твары хлопцаў. Пры маім зьяўленні пачалі выкрыкваць:

-- Гур-ра!

-- Хай жыве!

-- Давай яго сюды!

За сталом убачыў старых наведвальнікаў -- Болека Камету, Фэльку Маруду, Маманта і Шчура. Тут быў і Кручок, вельмі малады з выгляду перамытнік, які на вечарынцы ў Сашкі гуляў са мной у суполцы і стукнуў Альфрэда бутэлькай у лоб за тое, што той меў пазначаныя калоды. Побач з Каметай сядзеў Юрлін, вядомы перамытнік-машыніст, які здаўна водзіць групы і ходзіць нават улетку. Гэта быў мужчына гадоў 50, высокі, шыракаплечы, рыжы. Юрлін быў п'яны. Ён голасна сьмяяўся і паўтараў: "Абы толькі ціха!" У куце пакоя драмаў гарманіст Антось.

Калі я падышоў да стала і прывітаўся з прысутнымі, Болек Камета падняў угару рукі і прамовіў:

-- Кажу і сьцьвярджаю, хлопцы, што з гэткай нагоды, -- меў на ўвазе мае ўцёкі, пра якія ведала ўжо шмат хлопцаў, -- тры дні і тры ночы шклянкамі... не, не шклянкамі, а вёдрамі гарэлку трубіць трэба!

-- Мудра! -- вымавіў Лорд.

-- Абы толькі ціха! -- дадаў Юрлін.

Пачалі гулянку. Я піў толькі піва, і то пакрысе. Не адчуваў яшчэ сябе здаровым. Антось граў на гармоніку... Я плаціў сёньня за ўсё.

Пасьля, змучаны гаманой, пайшоў разам зь Юлікам дахаты. Лёг спаць.

Я даведаўся, што Юзік Трафіда адбыў пакараньне і вярнуўся ў мястэчка, таму папрасіў Юліка, каб разбудзіў мяне ўвечары, а восьмай гадзіне. Аднак сам прачнуўся за квадру да васьмі. Апрануўся і разам зь Юлікам вырушыў на Слабаду. Там затрымаўся.

-- Ты, Юлік, ідзі дахаты, я сам вярнуся.

-- Глядзі, каб зноў не захварэў!

-- Я ўжо здаровы. Зрэшты, выбраўся толькі да Трафіды.

Юлік павярнуў назад, я ўвайшоў на падворак. Там усё было так, як даўней. У вокнах пямяшканьня прыкмеціў сьвятло ад лямпы, якая гарэла ў сталовым пакоі. Адчыніў дзьверы і ўвайшоў усярэдзіну. Убачыў на стале лямпу пад блакітным абажурам, а ў яе сьвятле абапёртую на далоні галоўку Янінкі. Дзяўчына даўгавата, праз усю шырыню пакоя ўзіралася, затым адклала набок кнігу, якую чытала за хвіліну да гэтага, і прамовіла:

-- Я вас чакала.

-- Так?.. Адкуль ты ведала, што я прыйду?

Усьміхнулася.

-- Я ведала. Мне котка падказала. Яна сёньня каля млына рыбу лавіла, а потым мылася і мылася.

Янінка паказала рукамі, як мылася котка.

Тады ж пачуў крокі ў сенцах, і ў пакой увайшоў Юзік Трафіда.

-- А, гэта ты!.. Чакаў цябе. Я ведаў, што ты ўжо вярнуўся... Ну, усё клёва!.. Вып'ем гарэлкі ці гарбаткі?

-- Лепей гарбаты!

-- Ну і муравана! Зараз арганізуем гэтую плюсканку.

Юзік выйшаў на кухню. Мяне зьдзівіла тое, што я не заўважыў у памяшканьні Гэлі. Падумаў, што яна, можа, пайшла ў мястэчка.

Калі крыху пазьней мы селі за стол, пачаў распытваць у Юзіка, як той праводзіў час да майго вяртаньня. У сваю чаргу сам падрабязна расказаў усе свае прыгоды. Янінка ўважліва слухала нас і ані слоўкам не ўлазіла ў гэтую размову. У нейкі момант запытаўся у Юзіка:

-- Як здароўе Гэлі?

Па твары Юзіка прабегла сударга. Вочы шырока расплюшчыліся. Ён доўга ўглядаўся на мяне, не адказваючы на пытаньне. Пачуў ціхія ўсхліпы і убачыў, як Янінка, падняўшыся з-за стала, пайшла ў спальню.

---

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 29—45.**

## ШТРЫХІ ДА ТВОРЧАГА ПАРТРЭТА

# "ШТО БУДЗЕ З ЗЯМЛЁЮ АСЛЕПЛАЮ..."

Паэзія Карласа Шэрмана заўжды ёсць для мяне загадка, якой і павінна, мусіць, быць сапраўдная паэзія. Нарадзіўшыся ў Мантэвідэо, вырасшы ў далёкай ад Беларусі лацінаамерыканскай староньцы, Карлас стаўся беларускім паэтам. Так, беларускім, хаця і піша на дзвюх мовах: матчынай — іспанскай ды бацькавай -- беларускай. Найвыразнейшай рысай беларускасці Карласа Шэрмана мне асабіста бачыцца катэгорыя і мастацкая, і палітычная аднача́сна -- клопат, высокае перажыванне за нашу айчыну. Трывожнае перажыванне. Гучыць яно і ў вершы з лаканічнай назвай -- "Пытанне":



**Асфальце, прылашчаны жаўталістам,**
**скажы мне, што будзе з зямлёю змушанай,**
**якую ўслаў ты покрывам ночы**
**бязлітасна,**
**ночы змрочнай**
**і вечнай, няўзрушанай!**

**Што будзе з зямлёю аслеплаю**
**без гойнага дождыку і без сонца,**
**без шчаснага грому, з зямлёю-калекаю,**
**былой урадлівіцай, сёння -- няўдобіцай!**

У анатацыі да зборніка "Сны" ёсць такія словы: "Карласу Шэрману... сняцца сны і сны незвычайныя, сны-вершы на іспанскай мове, на мове ягонай матулі, на мове малечых і юнацкіх гадоў.

Да беларускай мовы, мовы продкаў па бацькавай лініі, прывяла паэта генетычная памяць і павага да славянскага берага.

Кніга паэзіі Карласа Шэрмана "Сны" шматпланавая, шматтэмная, шматаблічная. Сучасны боль надзённы перагукаецца з сівой паганшчынай..." Кропка адліку --Беларусь. Погляд -- на ўвесь свет. На радзіму мацi. На Лацінскую Амерыку. Усё ў паэзіі Карласа Шэрмана звязана, пераплецена, перавіта. Ды ёсць стрыжань. Трывалы, магутны стрыжань духоўнасці. Канешне ж, "цяжкое самае -- любіць адразу, расцяўшы сэрца і няўцiшнае надвое". Але ж заставацца важна і ў гэтым болі "надвое" чалавекам. Важна захаваць высакароднасць. Падставы на тое паэту дае захапляючае і вернае служэнне Слову. Верыцца, што выказанае, выпешчанае думкамі, хвілінамі перажыванняў, яно -- заўжды шчырае, праўдзівае, пранiклiвае. Таму і такі рашуча непрымальны паэт у стаўленні да растыражыраванага псеўдаслова.

**Наркотык**
**надрукаванай хлусні**
**носіць каптурык блазна**
**назвы вокахоплівай**
**і каляны каўнерык**
**афіцыйнай крыніцы.**

І да самога паэта ўзнікае адпаведны давер. І нават да верша, назва якога таго-сяго сёння ўжо насцярожвае -- да верша "Кастрычнік і Сёння". І не толькі таму, што Карлас Шэрман запатрабоўвае вяртання даўгоў: "Кастрычнік, вярні беларусу ягоную родную мову -- крыніцу спатольнасці вуснам, пагоні па шчасце падкову. Па песні душа пямантуе па матчынай, шэпча замову, вярні беларусу святую ягоную родную мову!" А хутчэй таму, што паэт не прадстае ідэалістычна-часовым барацьбітом, а веру як сваё асабістае перакананне перdesignates, а значыць і перадае нам, найгалоўнейшую.

**Веру толькі ў адно змаганне,**
**з неба падаюць... хіба ўзвеі,**
**а сумленне маўчаць не стане,**
**слепа верачы ў міг надзеі.**

Прыцягальнасць паэзіі Карласа Шэрмана -- увасабленне ў вершаваным радку розных часін, іх злучэнне і перакрыжаванне. Вось і ў кнізе "Сны" асобны раздзел так і называецца -- "Галасы часу". Побач з поглядам у далёкае язычніцтва -- і асэнсаванне сучаснай, савецкай гісторыі Беларусі ("Далёкія каляды на Палессі"):

**А было ў час вялікай Адлігі,**
**час, які аддзяліў спадарожнік,**
**хоць сплывалі з душы нашай крыгі,**
**год быў золі і вымяў парожніх,**

**год кароў сухарэбрых, галодных,**
**тых, што ветрам і сцюжаю секла**
**у кароўніках брудных, халодных --**
**філіялах калгаснага пекла.**

**Працадзень дваццаць дзве тых капейкі**
**каштаваў, за якія нічога**
**не купіць, ад бяспекі, апекі**
**уцячы можна толькі да Бога.**

Карлас Шэрман, застаючыся цікавым сваёй няўхільнай беларускасцю, чытацкую цікаўнасць да сябе ўзвышае і пашырэннем нацыянальнага аблічча беларускай паэзіі. Асабіста для мяне вось яны -- паэты, якія з'яўляюцца сёння носьбітамі вершаванага беларускага слова ў свет -- творцы аднаго раду: Рыгор Барадулін, Леанід Дранько-Майсюк, Сяргей Законнікаў, Уладзімір Някляеў ды Карлас Шэрман... Магчыма, яшчэ некалькі імёнаў -- Леанід Галубовіч, Міхаіл Шэлехаў, Алесь Пісьмянкоў, -- паэтаў, здольных перайсці, сягнуць вышэй нацыянальнага, якія засталіся ўсё ж з народам, нацыяй, краінай, -- няшмат. Адзінкі. І Шэрман -- у гэтым шэрагу. Аўтар вершаў-трызненняў, вершаў--сноў па-іспанску быў, ёсць і будзе беларускім паэтам.

І шкада, што гэтага апантанага руплiўца на ніве паэзіі, на ніве перакладчыцкай працы (па-іспанску ў Мінску выдадзена ёмістая кніжка вершаў Купалы і Коласа), на ніве грамадскай працы як след не заўважае наша нацыянальная літаратурная крытыка.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

**НА ЗДЫМКУ: Карлас ШЭРМАН (у цэнтры) і Васіль БЫКАЎ.**

## ЗАМЕТКІ НА ПАЛЯХ КНІГІ ІВАНА САВЕРЧАНКІ

# АДКУЛЬ СЫМОН БУДНЫ?

З веравызнаннем, у якім быў выхаваны бацькам, сын Чорнага Мікалай Радзівіл Сіротка парваў яшчэ ў 1566 годзе, але беручы пад увагу радзівілаўскі род, які і надалей прытрымліваўся пратэстантызму, не адразу рашыўся на рэкаталіцызацыйныя крокі. Толькі ў 1574 годзе былі выдалены з горада пратэстанцкія духоўнікі і іх арганізацыі. Апошнім сцвярджэннем рэкаталіцызацыі было размяшчэнне ў Нясвіжы ордэна езуітаў і будаўніцтва ў 1587--1593 гадах касцёла Божага Цела, які захаваўся і да сёння ды выклікае захапленне ў кожнага. Факт адступніцтва Радзівілаў ад каталіцызму і вяртанне да ранейшай веры адлюстраваны ў архітэктуры храма. Цікаўным наведвальнікам касцёла заўсёды пакажуць на калоны, якія нібы падаюць, але іх падхопліваюць анёлы.

Нельга ані забываць, ані недаацэньваць таго факта, што Нясвіж у сваёй гісторыі меў пратэстанцкі перыяд і што тут быў надрукаваны ў той час "Катэхізіс" і іншыя кнігі Сымона Буднага. Адразу ж узнікае пытанне: як нам успрымаць тое, што Сымон Будны, пратэстанцкі аўтар і дзеяч, прамаўляе па-беларуску? Ці як намаганне, зробленае ў імя таго, каб да людзей, сярод якіх яму даручылі выконваць рэлігійную місію, звяртацца на зразумелай ім мове, ці як натуральны вынік таго факта, што беларушчына была яго матчынай мовай?

З апошнім прысудам наконт гэтага выступіў Іван Саверчанка ў сваёй манаграфіі "Сымон Будны. Гуманіст і рэфарматар", выдадзенай у 1993 годзе ў Мінску. Вось што ён піша на 8--9 старонках.

"Як аргумент у абарону польскага паходжання Буднага асобныя медыявісты прыводзяць факт напісання асветнікам некалькіх сваіх твораў на польскай мове. Але й гэты доказ наўрад ці хто з даследчыкаў старадаўняй культуры Беларусі прыме ўсур'ёз, паколькі полілінгвізм еўрапейскіх пісьменнікаў XVI стагоддзя, у тым ліку і тагачасных беларускіх аўтараў, -- гэта агульнавядомая з'ява... Вельмі істотна і тое, што свае першыя кнігі "Катэхізіс" і "Апраўданне грэшнага чалавека перад Богам" ...Будны напісаў акурат па-беларуску. Калі б ён быў паляк, то наўрад ці стаў бы выракацца роднае мовы і пісаць на чужой".

Кніга Саверчанкі -- гэта вельмі каштоўны знак памяці пра Буднага ў сённяшняй Рэспубліцы Беларусь, але са спробай зрабіць з Буднага радавітага беларуса абсалютна нельга пагадзіцца. Пра тое, што на рускіх землях Вялікага Княства Літоўскага ён не быў аўтахтонам, а толькі прышэльцам, Будны і сам прызнаецца. Ёсць пісьмо Буднага, пасланае з Клецка да лідэра швейцарскай рэфармацыі Генрыха Булінгера. У ім паведамляецца пра поспехі прапаганды пратэстантызму ў Вялікім Княстве Літоўскім і аднача́сова аб цяжкасцях і перашкодах, якія чыняць гэтай прапагандзе не толькі каталіцызм, але і праваслаўе, і прыхільнікі ўсё яшчэ жывога паганства. У гэтым лісце Будны выразна акрэслівае сваю дыстанцыю адносна Русі: "Даводзіцца мне тут (у Клецку) жыць у старане, куды не даязджаюць ад цябе аніякія кур'еры, затое часта бачу Сцытаў, Маскавіцян і іншых варвараў". І ў другім месцы, калі робіць намёк на "сваё нараджэнне і выхаванне ў веравызнанні, процілеглым таму, якое тут на Русі пануе", што раўназначна прызнанню: пакуль не перайшоў на пратэстантызм, быў католікам. А значыць быў палякам, бо беларусаў католікаў у тыя часы яшчэ не было.

Больш таго, вядомы і такія адкрытыя заявы Буднага, у святле якіх спробы трактаваць яго аўтарскія польскамоўныя выступленні як нешта выпадковае, аказваюцца проста смешнымі. Аб сваёй польскасці і аб тым, што польская мова была для яго роднай, не прамінуў задэкларыраваць у 1577 годзе, калі друкаваў у Лоску "De Republica emendanda" Ф. Мадржэўскага, перакладзеную з лацiны на польскую мову Цыпрыянам Базылікам. Менавіта Будны даў да перакладу Базыліка сваю прадмову, у якой, хвалячы ваяводу Мікалая Монвіда Драгастайскага за фінансаванне публікацыі, між іншым сцвярджае наступнае:

"... сапраўды, гэта дзіўна, што мы, палякі, ды і ўсе сарматы, аж дасюль мала пра яго (Ф. Мадржэўскага) ведалі і яго дастойныя пахвалы кнігі занядбалі. Вялікая і яўная гэта наша нядбаласць. Бо калі б мы пра іх дбалі, даўно іх на сваёй мове... мелі б".

Ці маем мы якія звесткі пра гады дзяцінства і маладосці Сымона Буднага, да прыезду яго ў 1558 годзе ў Літву? Абсалютна верагодна толькі тое, што быў прышэльцам з цэнтральнай Польшчы і, як пра гэта сведчыць запіс у спісе студэнтаў ад 19 кастрычніка 1544 года, вучыўся ў Кракаўскай акадэміі, астатнія даныя на гэтую тэму -- проста домыслы, хаця і надта падобныя на праўду. Дык вось, год яго нараджэння -- 1530, а месца нараджэння -- гэта вёска Буднэ ў Ражаньскім (цяпер -- Астраленцкім) павеце, населеная засцянковай мазурскай шляхтай. Вучоба ў Кракаўскай акадэміі забрала ў яго ад 7 да 10 гадоў, так што муры вучэльні ён пакінуў каля 1544 года. Можа, пакідаючы Кракаў, быў яшчэ католікам і толькі потым звязаўся з лагерам рэфарматараў пад уплывам кантактаў з пратэстантамі Піньчава малапольскага. Пра гэта гаворыць асаблівая пачцівасць Буднага да Яна Ласкага -- рэзідэнта рэфарматараў у Піньчаве. Быў гэта, як сведчыць Будны, чалавек такіх ведаў і набожнасці, роўнага якому яшчэ не нараджала Польшча.

Пра абставіны, пры якіх асеў у Літве, няцяжка здагадацца. Прыцягнуў яго пратэстанцкі за-


Początek listu Szymona Budnego do Henryka Bullingera z 1563 r.

**Пачатак пісьма Сымона БУДНАГА да Г. БУЛІНГЕРА, 1563 г.**

пал Мікалая Радзівіла Чорнага. Будны ў тым жа лісце да Булінгера апісвае вялікае набажэнства, якое адправілі пратэстанцкія пастары ў Вільні ў прысутнасці Чорнага ў 1588 годзе ці крыху пазней. На гэтай урачыстасці было запланавана тады вялікае наступленне пратэстантызму на ўсё Вялікае Княства Літоўскае. Ад увагі пастараў, якія сабраліся на гэтае набажэнства, не схавалася тая акалічнасць, што большасць насельніцтва тут складаюць не католікі, а рускія праваслаўныя. І ў сувязі з гэтым узнікла неабходнасць адлаведнай падрыхтоўкі тых, хто мае выконваць сваю місію сярод праваслаўных. І адным з тых, якія для гэтай духоўнай працы сярод праваслаўных былі накіраваны, апынуўся Сымон Будны -- пастар у радзівілаўскім Клецку.

Менавіта вышэйпамянёнае сведчанне самога Буднага ў лісце да Булінгера і прынятае на той адправе рашэнне накіроўваць місіянераў для пашырэння пратэстантызму вызначылі задачу, якую паставіў перад сабой малады пастар з Клецка, прыехаўшы з цэнтральнай Польшчы, -- пазнаёміцца з праваслаўнай рэлігійнай культурай і з царкоўна-славянскай мовай, а таксама з мовай, на якой штодзённа гаварыў акаляючы Сымона Буднага люд. А ніякае не паходжанне, як хочацца Саверчанку. І калі, дзякуючы лінгвістычным здольнасцям, якія меў Будны, хутка здолеў зрабіць поспехі ў рушчыне, амбіцыя падштурхнула яго ўзяцца за пяро і выступіць на рускай мове. Спрыяла гэтаму тая аказія, што ў недалёкім Нясвіжы была адкрыта друкарня, якая мела кірылічны шрыфт. Друкарня ставіла мэту -- забяспечыць попыт на пратэстанцкую рэлігійную літаратуру.

"Хацелася б мне, абыся ваши княжацские милости не только в чужоземских языцех кохали, але бы ся тежь ваши княжацския милости и того здавна славного языка словенъского розмиловати и оным ся бавити рачили. Слушная бо речь ест, абы ваши княжацские милости того народу язык миловати рачили, въ котором дав[illegible] предъки и их княжацъские [illegible]лости панове отци ваших княжецских милости славне преднейшие преложеньства несуть".

Не хацеў бы дакараць [illegible] Саверчанку і наогул беларускіх даследчыкаў Сымона Буднага за выдзяленне гэтага месца з "Катэхізіса" з прысвячэння Радзівілам. Тым больш, што Будны не вагаўся, выгаворваючы сучасным яму Радзівілам, што яны схільныя забыцца на тое, што рушчына была мовай іх продкаў. І ўсё ж гэтае сцвярджэнне сведчыць толькі аб тым, як глыбока і дасканала вывучыў Будны мову ў сувязі з яго місіяй, мову, якая не была для яго роднай. Будны -- гэта не беларус, а **беларусіст, першы ў гісторыі паляк-беларусіст.**

Напрыканцы яшчэ адна заўвага. У сваёй манаграфіі Саверчанка вельмі сумленна выкарыстаў працы польскіх гісторыкаў рэфармацыі, якія датычацца Сымона Буднага. Напрыклад, Станіслава Кота ці Хэнрыка Мерчынга. Але ўсё-такі польская літаратура скарыстана не поўнасцю. Кідаецца ў вочы, што не ўзяты пад увагу вынікі даследаванняў так званай Другой прадмовы Буднага (1589 год) да "Новага Завета". Цікаўных адсылаю да кнігі Людвіка Залеўскага "Таямніцы Сымона Буднага".

**Анджэй КЕМПФІ.**

**АД РЭДАКЦЫІ: Вядома ж, публікацыя польскага беларусіста Анджэя Кемпфі мае шмат спрэчных сцвярджэнняў. Тым не менш, лічым, што аўтар мае права на свой погляд. У каго ёсць іншыя меркаванні па закранутай праблеме, -- калі ласка, на старонкі "Голасу Радзімы".**

## БЕЛАРУСКІ МАСТАЦКІ ПЕРАКЛАД

# АКТЫВІЗАВАЦЬ "ІМПАРТ ІДЭЙ"

Не баючыся паўтарыць агульнавядомае, падкрэслім: статус любой сучаснай культуры забяспечваецца ўзаемадзеяннем, кантактамі, выхадам у шырэйшы кантэкст. Пры гэтым кожная нацыянальная культура здзяйсняе сувязі паводле сваіх магчымасцяў, якія абумоўленыя і аб'ектыўнымі, і суб'ектыўнымі фактарамі, якія залежаць ад своеасаблівасцяў папярэдняга развіцця і ўзятай на перспектыву арыентацыі, якія мяняюцца, але ўсё ж такі і працягваюць лінію раней складзеных заканамернасцяў.

З асноўных прыкметаў своеасаблівасці беларускага мастацкага перакладу нельга не адзначыць наступнае:

1. Менавіта пераклад (на нашу думку, больш істотна, чым у іншых падобных выпадках) стаў першым сродкам ідэнтыфікацыі ўласна беларускай культуры, фіксуючы моўныя адрозненні.

2. Ад самых вытокаў і да сённяшніх дзён у галіне перакладу актыўна і плённа працуюць амаль што ўсе вядомыя пісьменнікі.

3. Як нідзе ўплывовым (з-за блізкасці моў, спалучанасці гістарычных лёсаў, тыпалогіі духоўных працэсаў...) з'яўляецца стагоддзямі замацаваны стан білінгвізму, што складае цэлы шэраг неадназначных момантаў.

4. Парадаксальна, але факт, што пры ўсім адзначаным увогуле не распрацоўвалася ні гісторыя, ні тэорыя беларускага мастацкага перакладу. Няма дагэтуль, адлаведна, і ўласнай тэорыі сувязяў.

5. На цяперашні момант можна гаварыць аб тым, што ў рэцэпцыі іншанацыянальных культур, асабліва літаратур, пануе стыхія. І перакладчыкі маюць у гэтым вызначальную ролю.

Паспрабуем больш уважліва разгледзець тое, што намі вылучана.

На першы погляд, бессэнсоўна параўноўваць ролі, якія адводзяцца перакладным творам літаратуры і арыгінальным. Але гэта ў тым выпадку, калі адны ці другія выхопліваюцца з агульнакультурнага кантэксту. Бо паводле прыроды, а тым болей паводле функцыянальнасці іх немагчыма падзяліць на першарадныя, другарадныя і г.д. Наўрад ці хто асмеліцца сцвярджаць, што перакладзеная Скарынам "Біблія" адыграла ў гісторыі беларускага пісьменства і ўвогуле духоўнага самасцвярджэння ролю меншую за вядомыя "першатворы" свайго ды й пазнейшага часу. І справа тут не толькі ў Святым Пісанні як асаблівым фактары, хоць гэта, безумоўна, важна, бо адсутнасць у скарбніцы пісьменства на роднай мове, у фондзе нацыянальнай культуры як цалкам асвоеных твораў Сафокла і Дантэ, Шэкспіра і Гётэ, Мальера і Уітмэна... -- таксама паказчык статуса той культуры, якая засвоіла ці не засвоіла названыя каштоўнасці.

Таму якраз перакладу на беларускую мову твораў іншанацыянальных пісьменнікаў вялікую ўвагу надавалі -- самі нязменна займаліся! -- Я.Купала, М.Багдановіч, У.Дубоўка, А.Дудар, А.Куляшоў, Ю.Гаўрук, А.Зарыцкі. Сярод актыву перакладчыкаў-практыкаў таксама прызнаныя літаратары наступнага пакалення: Р.Барадулін, Н.Гілевіч, П.Макаль, Я.Сіпакоў. Актыўна перакладаюць і беларускія пісьменнікі, якія сцвярджаліся ў 70--80-я гады: А.Разанаў, С.Панізьнік, П.Марціновіч, А.Асташонак. З другога боку, у беларускай літаратуры апошняга часу склалася група творцаў, для якіх пераклад -- адзіны ці галоўны прафесійны занятак: нябожчыкі Я.Семяжон і П.Бітэль, прадстаўнікі сярэдняга пакалення В.Сёмуха, У.Папковіч, А.Шаўня, К.Шэрман, а таксама маладзейшыя Л.Казыра, Л.Баршчэўскі, З.Колас, С.Шупа.

У 70--90-я гады літаратурна-мастацкі пераклад на Беларусі прыдбаў нейкую вагу як складаная частка працэсу развіцця літаратуры. Пачалі складвацца серыі выданняў: "Бібліятэка замежнай прозы", "Паэзія народаў свету", "Паэзія народаў СССР", выходзілі штогадовыя альманахі: "Далягляды", "Братэрства", "Ветразь".

Нягледзячы на гэта, і да нашых дзён на Беларусі шэдэўры сусветнай класікі, творы сучасных пісьменнікаў замежжа больш распаўсюджваюцца і функцыянуюць у рускамоўным перакладзе.

У сувязі з гэтым неабходна акрэсліць агульнае стаўленне да білінгвізму. І першае, на чым варта прыпыніцца, тое, што погляды на гэтую з'яву "звонку" і "з сярэдзіны" не супадаюць, рэдка ўдаецца дамагчыся адпаведнасці тэарэтычных і практычных падыходаў. Калі бесстаронна падагульваць, аказваецца, што пераважаюць такія меркаванні: двухмоўе ўсё роўна з'яўляецца анамаліяй; пакуль што яно існавала як вынік кампрамісу; надалей кампраміс немагчымы. Білінгвізм у дзяржаве, грамадстве -- не выключна беларуская з'ява. Між тым, выпадак Беларусі характарызуецца своеасаблівымі рысамі, якія залежаць ад канкрэтнага гістарычнага, палітычнага, культурнага, сацыяльнага вопыту народа Рэспублікі Беларусь. Нацыянальная самасвядомасць у рэтраспекцыі нязменна шукае і знаходзіць доказы адметнасці, больш ранняга сцвярджэння праз уласныя (беларуска-літоўскія) творы: Статуты Вялікага Княства Літоўскага, Метрыкі ВКЛ -- каля 600 (!) кніг, скарынаўскія пераклады "Бібліі", выданні "Мал[illegible] падарожнай кніжкі", Апост[illegible] усё гэта -- да маскоўск[illegible]-рускага кнігадрукавання!), граматыка Л.Зізанія, беларускія рэдакцыі, версіі "аповесцяў", якія тады распаўсюджваліся ў Еўропе -- пра Баву, пр[illegible]ыстана, пра Атылу, пра Тр[illegible] многія іншыя. Да таго ж у 20-я гады нашага стагоддзя працэс беларусізацыі ахапляў амаль без выключэння ўсе сферы жыцця, а ў прыватнасці, даў магутны штуршок развіццю мастацкага перакладу... Што ж да сітуацыі пачатку 80-х гадоў, паколькі грунтоўная статыстыка адсутнічае, прывядзём уласныя выбарачныя назіранні і падлікі. Напрыклад, у масавых бібліятэках з перакладной літаратуры кніг беларускамоўных заказвалася не больш як 1 працэнт. Адносна выданняў на рускай мове ў цэлым вага беларускіх кніг і часопісаў складала недзе ўсяго каля 5 працэнтаў. Нейкі час існавала надзея, што працэсы Адраджэння хутка зменяць усе паказчыкі на карысць нацыянальнай літаратуры і культуры. Але даводзіцца канстатаваць, што суадносіны сталі яшчэ больш небяспечныя.

Так, агульным месцам у размовах наконт беларускага перакладу было крытычнае стаўленне да апасродкаваснці. Тады ўвага звярталася на мову: кепска, што перакладзена не з арыгінала, нямецкага, напрыклад, а ўжо з рускага падрадкоўніка альбо гатовага перакладу. Падобная заганная практыка, пасля таго як афарміўся актыў сваіх перакладчыкаў-прафесіяналаў, была пераадолена. Ды істотны быў не толькі моўны аспект. Яшчэ больш -- тое, што парушаўся механізм самастойнай рэцэпцыі наогул, усталёўваўся "запазычаны падыход да запазычанняў", пры якім проста прапануюцца несамастойныя прынцыпы адбору тэкстаў, а таксама пераймание ўсіх недахопаў рускамоўнага перакладу разам з купюрамі, адвольнымі трансфармацыямі, элементарнымі памылкамі. Вынікі і наступствы таксама парадаксальныя: іншанацыянальны твор, перакладзены гэткім чынам, захоўвае больш за ўсё дачыненне да мовы і літаратуры, якія выступалі пасрэдніцамі. Ён не мае істотнага ўплыву на сапраўдныя міжнацыянальныя кантакты, не стымулюе ўласна беларускі пераклад, а значыць і літаратуру, і культуру ўвогуле. У рэшце рэшт, ён не пашырае рэальны дыяпазон паспаўсюджання той культуры, якую прадстаўляе арыгінал.

Праілюструем. Намі вялося анкетаванне шырокага кола чытачоў. Высветлілася, што амаль усе мелі знаёмства з замежнымі літаратурамі праз рускую мову, і цяпер абсалютная большасць таксама не ведае нават, ці ёсць тыя самыя творы ў беларускамоўных перакладах. Не менш паказальна, што толькі адзінкі, ды і то прыблізна, маглі вызначыць, да якой канкрэтна замежнай літаратуры належалі прачытаныя імі перакладныя кнігі, менш за палову рэспандэнтаў здольныя прыгадаць імёны аўтараў гэтых кніг, а на перакладчыкаў увогуле ніхто не звяртае ўвагі. Далучэнне да скарбаў сусветнай культуры, вядома, павінна адбывацца ў розных формах. Удзел моўпасрэдніц таксама не лішні; хутчэй наадварот, калі ісці ад канкрэтнай асобы, запатрабаванняў чытача. Аднак у нашым выпадку неймаверна гіпертрафіравалася роля заменніка, усталяваўся такі лад, калі дадатковы канал сувязяў ва ўсёй сістэме функцыянавання літаратуры і культуры пераважае над асноўным, уласным. Як бы ні было, павінна выпрацоўвацца іншая сістэма каардынат дзеля практычнага сцвярджэння самастойнасці, адметнасці, аўтэнтычнасці падобных з'яў і працэсаў. Ды, на жаль, усё гэта не асэнсавана і тэорыяй. У чым прычына?

Перш за ўсё ў тым, што перакладазнаўства на Беларусі, гэтаксама як у Расіі, трымалася на лінгвістычным грунце. У той час, калі асноўныя палажэнні лінгвістычнай тэорыі перакладу, якія фармуляваліся ў дачыненні да рускай, англійскай, французскай і шэрагу іншых моў, стан рэчаў у беларускай закранаюць хіба што ўскосна. Агульная тэорыя перакладчыцкую дзейнасць і яе вынікі нязменна падае ў біномным асвятленні: тэкст-твор (мова чужая, адна) -- тэкст-твор (мова свая, таксама адна). Гэта значыць, у полі зроку толькі моўная дзейнасць, няхай сабе творчая, што грунтуецца на індывідуальным білінгвізме, уласцівым перакладчыку. Але ж сітуацыя на Беларусі, асабліва ў 30--80-я гады, характарызуецца білінгвізмам усеагульным, уласцівым асяроддзю, на якое разлічваецца пераклад, пра што мы ўжо вялі гаворку. Дадамо толькі, што пры гэтым мова канкрэтнага этнасу належыць да разраду такіх, якія маюць "абмежаванае распаўсюджанне" -- і па статусу ў свеце, і нават па сферах ужытку ў сваёй краіне.

Відавочна, што пры такіх акалічнасцях павінен узнікнуць комплекс адметных задач і для тэорыі, і для практыкі. Нагадаем самыя прыкметныя і балючыя кропкі: адзначанае вышэй "запазычанне запазычванняў"; нераўнацэнная варыятыўнасць паводзін чытачоў-білінгваў нават тады, калі ёсць аднолькавыя магчымасці выбару паміж рускім і беларускім перакладамі; камерцыялізаваныя погляды выдаўцоў на мэтазгоднасць вялікіх тыражоў беларускага перакладу, калі твор вядомы і попыт мае ў перакладзе рускамоўным; спакусы перакладчыкам -- працаваць дзеля шырэйшага прызнання і вышэйшага заробку, гэта значыць займацца пераўвасабленнем чытэльных -- а не высокамастацкіх, духоўных -- твораў, прычым ахвотней на рускую мову...

Звернемся яшчэ раз да відавочнага і бясспрэчнага. Кожная літаратура вылучаецца і сцвярджаецца як асобная толькі пры наяўнасці сваёй сістэмы ўзаемадачыненняў найперш дзякуючы перакладу: выходзіць у свет і ўводзіць свет іншы ў свае далягляды (рассоўвае іх, удакладняе сваё месца, патрэбы на перспектыву), нарэшце, паслядоўна пераглядае адрозненні "свайго" і "чужога".

(Заканчэнне на 8-й стар.).






# НАЗАД — ДА СВЕТЛЫХ ДАЛЯЧЫНЬ КАМУНІЗМУ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

**На адным з транспарантаў у натоўпе, што заліў плошчу Незалежнасці ў Мінску 7 лістапада, я прачытаў: "Восстановить советский общественный строй..." Гэта думка, відаць, свідравала мазгі кожнаму, хто адзначаў зноў, пасля пяцігадовага перапынку, свята Кастрычніцкай рэвалюцыі. Статус дзяржаўнага яно атрымала з рук Вярхоўнага Савета.**

**А трэба шчыра прызнацца, што такіх людзей было нямала і ў Мінску, і ў іншых гарадах Беларусі. У Бабруйску дык нават адбыўся ваенны парад, ці не адзіны ва ўсім былым СССР. Зрэшты, што дзівіцца, у камуністычным маршы Беларусь заўсёды хацела крочыць "впереди планеты всей". Таму і сёння ў нашай дзяржаве захаваліся амаль што ўсе помнікі правадыру сусветнага пралетарыяту.**

**Калі ёсць свята, значыць яно некаму патрэбна. Але ж! І гэта пацвердзіла 78-я гадавіна Кастрычніцкай рэвалюцыі, якую святкавалі, напэўна, сотні тысяч людзей у нашай дзяржаве. Святкавалі з настальгічным энтузіязмам па тым часе, калі ў кожнай зале і амаль на кожным плоце вісела чырвонае палотнішча з заклікам: "Наперад -- да камунізму!" Лозунг, які ніхто не заўважаў і над зместам яго не задумваўся. Сёння ён зноў становіцца актуальным. Небяспечна актуальным! Для мяне было блюзнерствам чуць па радыё палітычна-абскурантысцкі шлягер:**

**И Ленин такой молодой,**
**И юный Октябрь впереди...**

**Як і ўсхліпванні некага з дэманстран[...]ыакont таго, што гады праўлення Леаніда Брэжнева былі [...]латой эпохай" савецкай дзяржавы.**

**Хто ж выйшаў на вуліцы 7 лістапада 1995 года! Па праўдзе кажучы, толькі людзі паважнага ўзросту, старэйшыя векам, для якіх Вялікі Кастрычнік нешта значн[...] іх жыцці. Як ні дзіўна, але людзі, абрабаваныя і падм[...]ыя перабудовай, толькі ў святле ружовых ілюзій бачаць савецкае мінулае сваёй дзяржавы. Ну а моладзь! Пашукайце маладыя твары на здымках і можаце падлічыць, колькі было моладзі на дэманстрацыі, якая мела засведчыць адданасць ідэям Кастрычніка. У моладзі іншыя ідэі, іншы накірунак: яна, як гавораць у нас, пайшла ў камерцыю.**

**Ян ГІЛУЦЁВІЧ.**





**На фотаздымках Віктара СТАВЕРА адлюстраваны фрагменты святкавання 78-й гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Мінску.**

# АКТЫВІЗАВАЦЬ "ІМПАРТ ІДЭЙ"

**(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).**

Між тым, у праекцыі на беларускую літаратуру гэта мае шэраг супярэчнасцяў. Да ўжо разгледжанага трэба дадаць і адваротны бок -- рэцэпцыю беларускай літаратуры ў замежным свеце.

Распаўсюджанне твораў беларускіх пісьменнікаў за апошнія гады прыкметна зменшылася. Сярод прычын -- аслабленне пасрэдніцтва рускай мовы. За апошнія гады з беларускай мовы на рускую выдавецтвамі Расіі перакладзены лічаныя адзінкі.

Ідэалізаваць мінулыя часы не варта. Аднак нельга не прызнаць, што літаратурныя сувязі былі інтэнсіўныя. Толькі ў Маскве працавала больш за дзесятак шчырых і актыўных папулярызатараў беларускага мастацкага слова. Аднак не ўсе пераклады былі на высокім узроўні, гэтаксама як не ўсё, што выдавалася, мела такія вартасці, каб прадстаўляць сапраўдныя здабыткі беларускага прыгожага пісьменства. Тым не меней адбывалася ўключэнне беларускай літаратуры ў так званы агульнасаюзны кантэкст, а праз яго і ў кантэкст шырэйшы.

Нельга абмінаць гэтае "праз". Як-ніяк, а паводле розных падлікаў, больш за 90 працэнтаў усяго, што "выходзіла за круг" -- было выдадзена ў рэспубліках былога СССР і замежных краінах -- перакладалася з рускай, а не беларускай мовы. Варта ўлічваць таксама, што беларускія пісьменнікі, больш як прадстаўнікі іншых народаў былога Савецкага Саюза, свае творы перакладалі на рускую мову, гэта значыць, займаліся аўтаперакладам, што давала яшчэ адну праяву беларускага феномена. Сімптаматычна, што з'ява гэтая, насуперак усім спадзяванням і прагнозам, пашыраецца. Чаму? Расійскія выдавецтвы перасталі працаваць на "дружбу народаў -- дружбу літаратур", на стварэнне супольнай літаратуры народаў СССР, адзінай культурнай прасторы. Пасрэдніцтва ў далейшым распаўсюджванні твораў іншанацыянальнага мастацтва, такім чынам, ужо не выконваецца. Між тым, беларусістаў у свеце раптам больш не стала, нават рыхтаваць іх -- ні ў далёкім, ні ў блізкім замежжы, паводле новай тэрміналогіі -- пакуль што не спяшаюцца. Карацей кажучы, разбурылася тая сістэма ўзаемасувязяў, якая дзейнічала на працягу дзесяцігоддзяў, рэзка змяніліся ўяўленні пра мікра- і макрасупольнасці ў культуры, прыярытэт набылі этнацэнтрычныя канцэпцыі. Новая сістэма кантактаў не наладжаная. Прычым, яе стварэнне тармозіцца вельмі істотным аб'ектыўным фактарам: аксіялогія нацыянальная далёка не заўсёды суадносіцца з аксіялогіяй універсальнай.

У любым выпадку суверэнізацыя, самастойны выбар арыенціраў, неабходнасць уліку розных мадэляў развіцця вядзе да актывізацыі перакладчыцкай справы. Пра гэта сведчыць вопыт многіх краін адлаведных часоў. Што ж да беларускай сітуацыі нашых дзён, яшчэ раз неабходна звярнуць увагу на супярэчнасці. Акрамя тых, пра якія ўжо была гаворка, надзённай становіцца наступная: мусова спалучаць дэзінтэграцыю ў адносінах да адной супольнасці і інтэграцыю ў адносінах да другой; плюс пераадольваць размежаванні і адначасова весці справу нацыянальнага самасцвярджэння, бо ідэнтыфікацыйнага значэння для беларускай літаратуры (магчыма, як ніякай іншай) пераклад не страціў. Хутчэй наадварот. Ён бярэ на сябе ўсё больш функцый па захаванню і ўмацаванню мовы, а такім чынам, і культуры наогул. Як прыклад можна згадаць тое, што перакладчыкамі толькі дагэтуль выпрацоўваліся пласты прафесійнай лексікі, сацыяльныя жаргоны, слэнг і інш., чаго ў нармальным ужытку не было, таму што пэўныя сферы займала мова руская.

**Іван ЧАРОТА.**

**Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**

**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").**



**НАШ АДРАС:**

**220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**



**Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны,77). Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак.5738. Падпісана да друку 13.11.1995 г.**